



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

17 ліпеня 2015 года №29 (1055)


## Знайшлі ля паўтоны няякасных прадуктаў. Як на такое не трапіць

## +Топ парушэнняў у крамах

старонка 3

## На бацькавай машыне збіў жанчыну – плаціць бацька

старонка 4

## Як не пасварыцца з каханым у адпачынку. Парады псіхолага

старонка 21


"На100ящий отдых"!

В Турцию за 500 000 бел. рублей!!!

Мечтаете о незабываемом отдыхе с минимальными затратами?

Разыгрывается 100 путёвок в Турцию по системе "всё включено" при покупке изделия от 500 000 рублей

в магазинах Молодечно "Золотая мечта"

по ул. Притыцкого, 25
по ул. Волынца, 7

(возле универмага и гармонной фабрики)

Срок начала рекламной игры "На100ящий отдых" 10.07.15 г., срок окончания – 14.09.2015. Св-во № 2588 о гос. регистрации рекламной игры от 26.06.2015, выдано Министерством торговли Республики Беларусь. Правила проведения рекламной игры размещены на сайтах carskoe.by и gold-dream.by. Т. (8-017) 203-00-85

ЧТУП «БигПрайм» УНП 69151104



Салон мебели "Black Rad White"

в г. Молодечно, ул. Ф. Скорины, 14 приглашает всех за покупками!

Прихожие, спальни, гостинные, кабинеты, кухни и многое другое.

Тел. (80176) 74-04-27. ООО "Династия Мебели". УНП 192242544



на100ящий ОТДЫХ!

с 10 июля по 6 августа

100 путевок в Турцию!

Молодечно, ул. Притыцкого, 12
www.carskoe.by

ЦАРСКОЕ ЗОЛОТО ювелирная сеть

Купи изделие от 500 000 бел. руб
Заполни анкету
Выиграй!

ЧТУП «БигПрайм» УНП 69151104

Срок начала рекламной игры "На100ящий отдых" 10.07.15 г., срок окончания – 14.09.2015. Св-во № 2588 о гос. регистрации рекламной игры от 26.06.2015, выдано Министерством торговли Республики Беларусь. Правила проведения рекламной игры размещены на сайтах carskoe.by и gold-dream.by. Т. (8-017) 203-00-85


## Выхаванец вайсковага лагера:

# "Старэйшыя кажуць не ісці ў армію, але я хачу"

Чытайце на 20-й старонцы




Задорна іграе на акардэоне Віктар Сыракваш, які завітаў у Яхімоўшчыну з Заскавічаў. Была ж нагода – свята вёскі!

СВЯТЫ

# Святочны каравай дзялілі ў Яхімоўшчыне

МАЛАДЗЕЧНА

**Нялёгкую задачу выканалі Сцяпан і Антаніна Антонавы, самая сталая сямейная пара з Яхімоўшчыны на свята сваёй вёскі. Раздзялілі святочны каравай.**

Удзельнікаў свята і гасцей у мінулую суботу было чалавек каля 300, сказала ўдзельніца свята кіраўнік справамі Палачанскага сельвыканкама **Анастасія Іода**. Паспрабуй на ўсіх раздзяліць!

Але святам, кажуць удзельнікі, засталіся ўсе задаволеныя.

Нагодай выйсці на фэст стала 485-годдзе гэтага паселішча.

Сцяпан Несцеравіч і Антаніна Ільінічна, якія дзялілі каравай, жывуць у сямейнай згодзе ўжо 54-ы год. А вось **Макару Карташэвічу** толькі споўнілася 2 месяцы. Але ён ужо прысутнічаў на свяце. І атрымаў ад арганізатараў сувенір. Не засталася без гасцінца-сувеніра і самая сталая жыхарка вёскі, 93-гадовая **Ганна Ізотава**. Падарунак для бабулі перадалі праз яе ўнучку.

Сёння ў вёсцы жыве 417 чалавек. Людзі самых розных узростаў і занятткаў. **Аляксандр Ясюкевіч**, напрыклад, зарэгістраваны рамеснікам. Таму, мабыць, і паказваў сваё кавальскае майстэрства аднавяскоўцам разам з унукам **Савеліем**. Жанчыны частавалі выпечкай, іншымі стравамі. Нехта дэманстраваў ткацкае майстэрства… І ўсё гэта з жартамі, прыпеўкамі, усмешкамі. Ведама, свята!

Фэст арганізаваў Палачанскі сельвыканкам з дапамогай работнікаў культуры раёна.

Калі хочаце пабачыць, як пагулялі ў Яхімоўшчыне, зазірніце на наш сайт




Мікола ГАЙДУК.

ДА 20-ГОДДЗЯ "РГ"

## Заметкі з лесвічнай клеткі

МАЛАДЗЕЧНА

**У рэдакцыю даслала ліст маладзечанка Нэлі Саўчанка.**

Шосты год хаджу па вуліцах Маладзечна. Адчуваю, як той паэт, што тут беларускі дух, тут Беларуссю пахне.

Адзін уезд у горад з боку Мінска – цуд. Божая маці і надпіс з кветак "Маладзечна". Мусіць, жыхары ўжо прызвычаіліся да прыгажосці, да парадку і не думаюць, хто ж гэта ўсё робіць?

Улады горада клапоцяцца, каб ён быў на ўзроўні еўрапейскага. Але ж нехта штодзённа прыбірае, косіць газоны, садзіць кветкі. Гэта цяжкая праца. Паспрабуйце высадзіць тысячу парасткаў кветак, сагнуўшыся ў тры пагібелі, каб атрымалася слова "Маладзечна".

Стаў прыгожым і чыстым наш сквер. Там ляжыць камень з плоскай вяршыняй, дзе я адпачываю ўранні і позна вечарам. Прапаную пакласці з дзясятак такіх камянёў. Лавак не трэба: могуць знесці людзі, якія дбаюць толькі пра сябе.

Вось і хачу падзякаваць кіраўніцтву горада за ініцыятыву, работнікам – за іх працу.

Сама я гамяльчанка. Горкі лёс прывёў мяне сюды. Тут амаль 14 гадоў жыла мая дачка-перасяленка з Веткі **Святлана Саўчанка** са сваёй дачкой. Перасялілася ў 2010 годзе і памерла ва ўзросце 42 гады ад хваробы. Я апекавала яе дачушку, маю ўнучку **Дар'ю Зелянкову** тры гады. Яна паступіла ў БДУ, паспяхова займаецца.

Мяне не пакінулі з бядой і незабыўным горам наш сенатар ад Маладзечанскага рэгіёна **Святлана Сарока**, маці і бацька сяброўкі маёй унучкі Каці – **Наталля** і **Сяргей Чалнаковы** – да цяперашняга часу клапоцяцца пра Дашу.

Жыццё мае па ўзросце ідзе на скон. Хачу, каб гэтыя людзі ведалі, што мы з унучкай ім вельмі ўдзячныя. Вялікі вам дзякуй за клопаты.

Хачу звярнуцца да чытачоў "Рэгіянальнай газеты": паглядзіце навокал у свабодную хвіліну і адчуйце замілаванне ад характа нашага беларускага наваколля, асабістае пачуццё свабоды, спакою і шчасця.

**P.S.** Паважаны рэдактар, апошні год я ўсё хацела асабіста ўбачыць Вас. А ў сувязі з 20-годдзем заснаванай вамі газеты пазнаёмілася па фотаздымку. Поспеху вам і вашым супрацоўнікам!

Нэлі САЎЧАНКА, жыхарка Маладзечна.

НАВІНЫ

### Здымаюць забарону на наведванне лясоў

РЭГІЁН

Асобныя раёны знялі забарону на наведванне лясоў.

Адпаведнае рашэнне прынялі выканкамы Вілейскага, Бабруйскага, Петрыкаўскага, Віцебскага і Бешанковіцкага раёнаў, паведамляе 14 ліпеня БелТА.

У сувязі з гарачым надвор'ем у Беларусі да нядаўняга часу былі закрытыя для наведвання амаль усе лясы.

Па стане на 8 ліпеня выключэнне складалі толькі Свіслацкі, Мастоўскі, Мядзельскі і Валожынскі раёны.

Забарона на наведванне лясоў на ўсёй тэрыторыі Гродзенскай вобласці цалкам знятая, дадае 15 ліпеня прэс-служба Міністэрства лясной гаспадаркі.

Аддзел інфармацыі.

### Гарадскі парк стаў "тэрыторыяй цвярозасці"

АШМЯНЫ

Адпаведнае распараджэнне прыняў Ашмянскі райвыканкам.

– У парку, як і любым грамадскім месцы, і так забаронена распіццё спіртных напояў, – праканментаваў начальнік Ашмянскага райаддзела ўнутраных спраў **Дзмітры Уляшка**. – А ў сувязі з тым, што парк стаў "тэрыторыяй цвярозасці", там не будзе дазволены продаж алкагольных напояў, у тым ліку і ў часовых кафэ.

Таксама парк стаў зонай асаблівай увагі для праваахоўнікаў. Супрацоўнікі міліцыі будуць яшчэ больш увагі звяртаць на паводзіны грамадзян, папярэджваць парушэнні грамадскага парадку з боку тых, хто надумаецца прыйсці ў парк нанапітку.

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Пабудуюць басейн з элементамі аквапарку

АШМЯНЫ

Праектна-каштарысную дакументацыю на яго склалі раней.

– Яе рыхтавалі разам з дакументацыяй на фізкультурна-аздараўленчы комплекс, які афіцыйна адкрыўся 15 лістапада 2013 года, – распавяла дырэктар комплексу **Наталля Сапронава**. – Падвядзенія і камунікацыі.

Басейн мяркуюць размясціць побач з фізкультурна-аздараўленчым комплексам. У ім прадугледжаны шэсць плавальных дарожак па 25 метраў, а таксама элементы аквапарку.

Тэрміны пачатку будаўніцтва залежаць ад фінансавання.

– Лічу, што басейн – гэта вельмі чаканы гараджанамі аб'ект, – кажа Наталля Сапронава.

Аддзел інфармацыі.

### На Нарачы афіцыянты пабілі 10 ліхтароў

МЯДЗЕЛ

Позна ўвечары 13 ліпеня два малады жыхары курортнага пасёлка Нарач вярталіся з дыскатэкі ў санаторыі "Прыазёрны".

Былі яны нападпітку і вырашылі паказаць п'яную зухаватасць. Пачалі кулакамі біць дэкаратыўныя ліхтары на тэрыторыі санаторыя. Гэта падалося ім забаўным – у выніку разбілі дзесяць ліхтароў, расказаў старшы следчы райаддзела Следчага камітэта **Максім Валеўка**.

Назаўтра маладзёнаў знайшлі – працуюць яны афіцыянтамі. Нанеслі яны шкоды больш за паўтара мільёна рублёў. Яе адразу ж пасля затрымання кампенсавалі. Узбудзілі крымінальную справу за злоснае хуліганства.

Аддзел інфармацыі.

НАВІНЫ

### Вугроў налавілі на 58 мільёнаў рублёў

МЯДЗЕЛ

Супрацоўнікі Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету 10 ліпеня затрымалі двух жыхароў Мядзельшчыны.

Тыя на возеры Мядзел злавілі 21 вугра, чатыры гусцяры і дзве плоткі.

– Але рыбаловаў па дарозе дадому сустрэлі супрацоўнікі інспекцыі, якія падлічылі шкоду, нанесеную навакольнаму асяроддзю. Браканьерам давядзецца кампенсаваць амаль 58 мільёнаў рублёў, – расказаў старшы дзяржаўны інспектар міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету **Уладзімір Хіла**.

У парушальнікаў канфіскавалі донныя вуды, 10 кілаграмаў рыбы, лодку з электраматорам.

На аўтамабіль, што належыць аднаму з парушальнікаў, наклалі арышт.

Жыхары раёна нанеслі навакольнаму асяроддзю шкоду ў асабліва буйным памеры.

Райаддзел Следчага камітэта ўзбудзіў крымінальную справу. Парушальнікам пагражае да шасці год пазбаўлення волі.

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Журналісты з Расіі наведаюць АЭС

АСТРАВЕЦ

На базе Беларускай АЭС 4 жніўня пройдзе прэс-тур для прадстаўнікоў расійскіх СМІ. Тэма яго такая: "Узаемадзеянне Беларусі і Расіі ў сферы энергетыкі".

Госці азнаёмяцца з ходам работ на асноўных аб'ектах Беларускай АЭС, што будуецца ў Астравецкім раёне, прымуць удзел у "круглым стале".

Таксама ў межах прэс-тура запланаванае наведванне аб'ектаў энергетычнай галіны Беларусі.

Паводле аддзела інфармацыі і грамадскіх сувязяў Беларускай АЭС.

СПАЖЫВЕЦ

# Знайшлі ля паўтоны няякасных прадуктаў. Як на такое не трапіць

ВІЛЕЙКА

**Каля паўтоны прадуктаў забаранілі рэалізоўваць на Вілейшчыне ў чэрвені.**

Напрыклад, у адным складскім памяшканні парушаўся тэмпературны рэжым захоўвання. Там супрацоўнікі раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі выявілі і забаранілі да рэалізацыі больш за трыста кілаграмаў малочнай прадукцыі і мяса птушкі.

Гэта яшчэ раз нагадвае, што да куплянbackup харчоў трэба ставіцца адказна.

– Нельга сказаць адназначна, што найбольш важна пры выбары харчовай сыравіны і прадуктаў. На мой погляд, важна ўсё, – кажа доктар-гігіеніст Вілейскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Алена Ліхачэўская.**

## Сачыце за тэрмінам прыдатнасці і тэмпературай

Спецыяліст распавяла, на што трэба звяртаць увагу пры купляннi прадуктаў.

1. Наяўнасць этыкетак, таварных цэтлікаў або лісткоў-укладышаў з інфармацыяй аб назве, вытворцу, тэрмінах вырабу, складзе, умовах захоўвання і іншым;

2. Тэрмін захоўвання. Ён можа быць у двух відах. "Прыдатны да" – значыць, на ўпакоўцы стаіць дата, пасля якой рэалізацыя прадукту забароненая. Таксама можа быць напісана "дата вырабу" – трэба шукаць дату расфасоўкі або вытворчасці прадукту і ўжо з гэтай даты вылічваць канчатковы тэрмін. Старайцеся пастаянна праглядаць тэрмін прыдатнасці прадуктаў, каб пазбегнуць цяжкіх атручванняў няякаснымі або пратэрмінаванымі прадуктамі;

3. Знешні выгляд. Адкладзіце ўбок успушаны пакет, мяккую пакамечаную кансервавую бляшанку ці з набрынялым вечкам, гародніну і садавіну з прыкметамі гнілі або пашкоджанай лупінай. Пры набыцці сыпкіх прадуктаў звяртайце ўвагу на наяўнасць шкоднікаў;

4. Абавязкова праверце кансістэнцыю прадукту. Яна павінна быць аднастайнай, пах – характэрны для адпаведнага прадукту, без гніласці або цвілі;

5. Летам абавязкова адсочвайце тэмпературу, пры якой павінен захоўвацца прадукт (пазначаная на этыкетцы) і пры якой захоўваецца ў краме (кожны халадзільнік абсталяваны тэрмометрам). Не набывайце паўторна замарожаную прадукцыю, пакамечанае марожанае;

6. Не саромейцеся патрабаваць у прадаўца дакументы, якія сведчаць пра якасць і бяспеку прадукцыі. Лепш за ўсё набываць прадукты харчавання ў правераных гандлёвых аб'ектах.

**– Нельга сказаць пра тое, што прадукты застаюцца бяспечнымі, не кажучы пра карысць, пры наяўнасці хаця б аднаго дэфекту, – падкрэслівае Алена Ліхачэўская.**

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота ic.pics.livejournal.com.

### Топ парушэнняў за чэрвень

1. Парушаюцца правілы таварнага суседства – 38% выпадкаў;

2. Гандлююць прадукцыяй без этыкетак, таварных цэтлікаў або лісткоў-укладышаў з інфармацыяй, якая наносіцца ў адпаведнасці з заканадаўствам – 28%;

3. Гандаль прадуктамі з тэрмінам прыдатнасці, які сышоў – 19% выпадкаў;

4. Парушаныя ўмовы захоўвання, тэмпературны рэжым захоўвання – на 17% аб'ектах;

5-6. Уборка вытворчых памяшканняў і абсталявання не праводзіцца пасля заканчэння працоўнай змены – 13%;

Перасоўванне прадуктаў харчавання з тары пастаўшчыка ў іншую выпадковую тару – 13%;

7. Не указаныя дата і час ускрыцця спажывецкай упакоўкі – 11% аб'ектаў.

По матэрыялах праверак за чэрвень да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнулі 46 службовых асоб на суму больш за 126

## На месяц адключылі гарачую ваду

СМАРГОНЬ

Яе не будзе да пятага жніўня. Як пракаментаваў галоўны інжынер Лідскіх цеплавых сетак **Ігар Кандратовіч**, такі незвычайна доўгі тэрмін адключэння гарачай вады ў асноўным звязаны з планавым рамонтам дымавой трубы. Яе немагчыма адрамантаваць без спынення працы кацельні.

**Аддзел інфармацыі.**


**Турагентство «Новая планета»**

- **Туры в любую точку мира** (вылет из Вильнюса, Каунаса, Минска).
- Специальные предложения по **отдыху в Грузии**.
- **Аренда апартаментов** в Испании, Италии. **Покупка футбольных билетов** на FC Barcelona+отель+перелет.
- **Отдых в Беларуси**.
- **Шенген-виза, поможем оформить американскую визу.**

**ГОРЯЩИЕ ТУРЫ. СКИДКИ!**

*Быстро, качественно, недорого!*

***Минск, пер. Тучинский, 2 -19б***

Тел.: **(8029) 109-00-92, (8029) 749-00-92, (8017) 306-51-84**

ООО «Новая планета» УНП 192466000

МОЛОДЕЧНЕНСКИЙ ФИЛИАЛ УП «МИНСКОЕ ОТДЕЛЕНИЕ БЕЛОРУССКОЙ ТОРГОВО-ПРОМЫШЛЕННОЙ ПАЛАТЫ»

**КУРСЫ ИНОСТРАННЫХ ЯЗЫКОВ**

✓ английский ✓ немецкий ✓ польский

г. Молодечно, ул. Буховщина 60/1, пом. 54, 1 этаж

Тел.: 8 (0176) 70 31 15, 70 31 16, 8 (029) 635 35 74

e-mail: tppm-mo@tppm.by, http://www.tppm.by

УНП 100144204





| Курсы валют НБ РБ | 9.07 | 16.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 15 446,00 | **15 330,00** |
| Еўра | 17 046,00 | **16 834,00** |
| Злоты | 4 030,24 | **4 071,98** |
| Расійскі рубель | 270,12 | **268,60** |
| Грыўня | 717,77 | **695,24** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 15.07** | | |
| Еўра | 16820/17050 | **16800/17050** |
| Долар ЗША | 15350/15500 | **15280/15450** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 8.07 | 15.07 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53700 | **53700** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28900 | **28900** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 85000 | **85000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 37800 | **37800** |
| Селядзец, 1 кг | 54000 | **54000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 98000 | **118000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14000 | **14000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 13700 | **13700** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 12000 | **12000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 19000 | **19000** |
| Маянэз, 200 г | 5000 | **4900** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14500 | **14500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 35000 | **35000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 11500 | **9800** |
| Капуста, 1 кг | 5500 | **6500** |
| Морква, 1 кг | 17000 | **19500** |
| Буракі, 1 кг | 10000 | **6000** |
| Лімоны, 1 кг | 24900 | **38000** |
| Апельсіны, 1 кг | 17900 | **29500** |
| Мандарыны, 1 кг | 34500 | **29500** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 34900 | **34900** |
| Ківі, 1 кг | 36900 | **39500** |
| Нектарыны, 1 кг | 26500 | **26500** |
| Абрыкосы, 1 кг | 29500 | **26900** |
| Чарэшні, 1 кг | 33000 | **20000** |
| Памідоры, 1 кг | 18500 | **18500** |
| Агуркі, 1 кг | 6000 | **6000** |
| Перац, 1 кг | 42900 | **18000** |
| Вінаград, 1 кг | 39900 | **37000** |
| Бананы, 1 кг | 15900 | **16500** |
| Кавун, 1 кг | 10000 | **6000** |
| Дыня ("тарпеда"), 1кг | 18500 | **13000** |
| Яблыкі, 1 кг | 15500 | **18500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 28500 | **29500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **55000** |
| Бульба маладая, 1 кг | 9500 | **6900** |
| Сала, 1 кг | 90000 | **90000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | 55000 | **55000** |

ПРАКУРАТУРА, СУД

# На бацькавай машыне збіў жанчыну – плаціць бацька

МАЛАДЗЕЧНА

**Даць ці не даць паездзіць на сваім аўтамабілі? Перш чым вырашыць, варта ўзгадаць, што ў выпадку чаго давядзецца адказваць гаспадару машыны.**

Сёлета ў маі ўступіў у законную сілу прыгавор суда Маладзечанскага раёна, згодна з якім кіроўцу прызналі вінаватым у парушэнні правілаў дарожнага руху, што пацягнула за сабой па неасцярожнасці прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання.

**Згодна з заканадаўствам Беларусі, пакрыць шкоду, нанесеную крыніцай павышанай небяспекі, павінна юрыдычная асоба або грамадзянін, якія валодаюць гэтай крыніцай на праве ўласнасці.**

Кіроўцу прызначылі два гады выпраўленчых работ. Прычым з заробку штомесяц будуць утрымліваць 25 працэнтаў у даход дзяржавы, але не менш за адну базавую велічыню. Таксама яго пазбавілі права займацца дзейнасцю, звязанай з кіраваннем транспартным сродкам цягам пяці гадоў.

24-гадовы маладзечанец рухаўся на легкавым аўтамабілі свайго бацькі. Праявіў неасцярожнасць і няўважлівасць на дарозе, парушыў правілы дарожнага руху. Ён своечасова не знізіў хуткасць і не спыніў машыну, хаця меў для гэтага тэхнічную магчымасць. Не саступіў дарогу пешаходу, які рухаўся па нерэгулюемым пешаходным пераходзе, і наехаў на яго.

У выніку апошні атрымаў цяжкія цялесныя пашкоджанні.

## Прад'явіў іск – 100 мільёнаў рублёў

Падчас судовага разбіральніцтва пацярпелы прад'явіў іск аб спагнанні з абвінавачанага, а таксама з яго бацькі, паколькі ён з'яўляецца ўласнікам аўтамабіля, у роўных долях 100 мільёнаў рублёў як кампенсацыю маральнай шкоды.

На судовым пасяджэнні абвінавачаны прызнаў сябе вінаватым цалкам і пагадзіўся пакрыць пацярпеламу прычыненую шкоду. Тым часам яго бацька іскавыя патрабаванні не прызнаў.

З улікам характару і ступені фізічных і маральных пакут пацярпелага суд вызначыў памер кампенсацыі маральнай шкоды – 50 мільёнаў рублёў. Суд спагнаў суму з бацькі абвінавачанага, адмовіўшы ў задавальненні іску да кіроўцы, які ў момант здарэння быў за рулём.

Пракуратура Маладзечанскага раёна заклікае ўдзельнікаў дарожнага руху быць уважлівымі і асцярожнымі, выконваць патрабаванні правілаў дарожнага руху, памятаць пра адказнасць за іх невыкананне, узважана падыходзіць да пытання перадачы свайго аўтамабіля іншай асобе.

**Вікторыя ПАЛЯШЧУК, старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна, юрыст другога класа.**



# Магчымасць скрасці правакуе злодзея. Прыклады

ВІЛЕЙКА

**Сёлета суд Вілейскага раёна прыцягнуў да адказнасці за крадзяжы 36 чалавек. Сярод іх трое непаўнагадовых.**

Звычайна крадуць альбо беспрацоўныя, альбо нецвярозыя, альбо неаднойчы судзімыя, альбо людзі, якія не маюць сям'і.

**Крымінальная адказнасць за крадзяжы наступае ад 14 гадоў.**

І часта крадуць проста з-за нядбайнасці саміх гаспадароў скрадзеных рэчаў.

## Краў з кабінетаў у адміністрацыйных будынках

Гэтую справу суд Вілейскага раёна разглядзеў сёлета ў красавіку. Абвінавачаны дагэтуль быў судзімы ўжо 30 разоў. У тым ліку і за карыслівыя злачынствы. У Вілейцы ён краў 14 разоў.

Абвінавачаны ішоў у адміністрацыйныя будынкі і свабодна заходзіў у незачыненыя службовыя кабінеты. Там заглядваў у жаночыя сумачкі і выцягваў кашалькі з усім, што там было.

Яго прызналі вінаватым і асудзілі да чатырох гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў выпраўленчай калоніі строгага рэжыму.

Аднак прыгавор у законную сілу не ўступіў, паколькі абвінавачаны падаў касацыйную скаргу.

## Сцягнуў са двара

Яшчэ адзін выпадак, калі у гаспадара рэчы маглі і не сцягнуць.

Сёлета 12 студзеня вынеслі прыгавор за крадзеж у аграгарадку Ілья Вілейскага раёна. Абвінавачаны сцягнуў са двара аднаго з жыхароў сякеру і металічны ўзровень. Накрадзенае прадаў, а грошы патраціў на алкаголь, цыгарэты і ежу.

Яму прысудзілі 240 гадзін грамадскіх работ. Гэта 30 дзён васьмігадзіннай працы. Прыгавор уступіў у законную сілу.

## Прыхапіў пакеты, якія віселі на дрэве

Сёлета 30 студзеня асудзілі за крадзеж каля сельскагаспадарчага поля, размешчанага паблізу вёскі Клыні Вілейскага раёна.

Абвінавачаны скраў два пакеты з прадуктамі харчавання, грашыма і асабістымі рэчамі. Гаспадары павесілі пакеты на дрэва, а самі пайшлі працаваць на поле.

Сярод накрадзенага былі касметычка, ключы, два кавалкі вэнджанай грудзінкі, чатыры кавалкі хлеба, свежыя таматы, люстэрка, кашалёк з грашыма, дзве памады і іншае.

Злодзею прысудзілі 240 гадзін грамадскіх работ. Прыгавор уступіў у законную сілу.

Гэтыя тры выпадкі выдатна ілюструюць, што магчымасць скрасці нярэдка правакуе злодзея.

**Наталля СТРЭЖ, памочніца пракурора Вілейскага раёна.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Ля Мядзела сутыкнуліся аўтамабілі – кіроўца аднаго загінуў

МЯДЗЕЛ

**Пасля 10 гадзін вечара 10 ліпеня дарожна-транспартнае здарэнне адбылося паблізу Мядзела.**

42-гадовы мясцовы жыхар на аўтамашыне "Форд" на закругленні дарогі налева выехаў на паласу сустрэчнага руху. Там "Форд" сутыкнуўся з аўтамабілем "Сузукі". Ім кіравала 28-гадовая мінчанка.

У выніку сутыкнення кіроўца "Форда" загінуў, а мінчанку шпіталізавалі ў бальніцу.

Выцягвалі загінулага кіроўцу з аўтамабіля выратавальнікі.

**Паводле МУС Беларусі.**

# Смаргонец загінуў у аварыі на Валожыншчыне

ВАЛОЖЫН, СМАРГОНЬ

**Каля сямі гадзін вечара 12 ліпеня на 43-м кіламетры аўтадарогі Мінск-Гродна паблізу вёскі Міхалова Валожынскага раёна загінуў кіроўца аўтамабіля "Таёта Пасеа".**

Па папярэдняй версіі, ён няправільна выбраў бяспечную хуткасць, выехаў спачатку на абочыну, затым на паласу сустрэчнага руху. Там машына сутыкнулася з фурай, паведамляе УДАІ УУС Мінаблвыканкама.

У выніку аварыі кіроўца ад атрыманых цялесных пашкоджанняў памёр на месцы здарэння.

У прэс-службе ДАІ Беларусі дадалі, што за рулём "Таёта Пасеа" быў 35-гадовы жыхар Смаргоні.

**Аддзел інфармацыі.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

# Бацька пырнуў нажом 19-гадовую дачку

МАЛАДЗЕЧНА

**Пра здарэнне, якое адбылося ў Маладзечне ў суботу, 11 ліпеня, распавёў намеснік начальніка Маладзечанскага раённага аддзела ўнутраных спраў па ідэалагічнай рабоце Уладзімір Васількоў.**

Успыхнула сварка. Бацька пачаў абражаць і біць сваю 19-гадовую дачку. Потым схапіў нож і пырнуў яе.

Дзяўчына разам з маці кінуліся да суседзяў. Тыя выклікалі "Хуткую".

Пакуль дактары аказвалі першую дапамогу пацярпелай, кіроўца службовага аўтамабіля, убачыўшы на лесвіцы вінаватага ў здарэнні, схапіў яго. Малады кіроўца ўтрымліваў мужчыну, пакуль не прыехала міліцыя, якую выклікала "Хуткая дапамога".

**Міліцыя дзякуе кіроўцу "Хуткай" Максіму Кушалю за праяўленую смеласць.**

**Настасся РОЎДА.**


Московскому (г. Минска) отделу Департамента охраны МВД РБ требуются сотрудники на должности
МИЛИЦИОНЕРА, МИЛИЦИОНЕРА-ВОДИТЕЛЯ
Требования: возраст до 25 лет, признанные годными к службе. АЛЬТЕРНАТИВА СЛУЖБЕ В АРМИИ.
Сотрудники имеют возможность пройти обучение на курсах водителей кат. В.
Предоставление жилья либо компенсация за найм жилья. Полный соц.пакет.
Зарплата от 6 500 000 руб.
Тел. (017) 213 16 06, моб.(029) 750 56 62, (044) 715 14 18
г. Минск, ул. К.Либкнехта, 49
ОХРАННИКА сторожевой охраны, ЭЛЕКТРОМОНТЕРОВ ОПС Тел. (017) 200 40 66, 200 59 79
УНП 100302509

Фрунзенский (г. Минска) отдел Департамента охраны МВД Республики Беларусь объявляет набор на должности
МИЛИЦИОНЕРА
- ГРУППЫ ЗАДЕРЖАНИЯ
- ВОДИТЕЛЯ
Требования: не старше 25 лет, с образованием не ниже среднего, а также не служившие в Вооруженных Силах Республики Беларусь.
ПРЕДОСТАВЛЯЕМ ОБЩЕЖИТИЕ, производим компенсацию за найм жилого помещения.
Тел. (017) 201 49 46
(029) 322 99 53
Наш адрес: г. Минск, ул. Пономаренко, 4, группа кадров
УНП 100079433

Партизанский (г. Минск) отдел Департамента охраны МВД РБ приглашает на службу на должности
• МИЛИЦИОНЕРОВ
• МИЛИЦИОНЕРОВ-ВОДИТЕЛЕЙ
• МИЛИЦИОНЕРОВ-КИНОЛОГОВ
лиц, годных к строевой службе в армии, образование не ниже среднего, возраст до 25 лет, служба в армии не обязательна
иногородним предоставляется общежитие
кандидаты имеют возможность пройти льготное обучение на курсах водителей кат. В
Тел.: (017) 245-67-83, (029) 682 81 55, (029) 858 85 34
Обращаться: г. Минск, ул. Уральская, 9-б
УНП 100349886




На тэрыторыі лагера працуе палатачны лагер. У ім жывуць спартсмены-валейбалісты з Мінска. У іх замест мерапрыемстваў – штодзённыя трэніроўкі.

ЛЕТНІ АДПАЧЫНАК

# "Будзем прышываць сяброў да ложка"

## Карэспандэнтка "РГ" пагутарыла з дзецьмі, якія цяпер адпачываюць у летніку

МАЛАДЗЕЧНА

**Летнік "Лясны", што знаходзіцца ў Мясоцкім сельскім савеце, ужо 33 гады расчыняе свае дзверы для дзяцей, якія ведаюць, як з карысцю правесці лета.**

Выхаванцы другой змены, а іх тут 400, цэлую змену задзейнічаны ў грандыёзным тэлепраекце, які называецца "ТБ "Лясны" прадстаўляе". Менавіта так называецца тэма другой змены.

– Кожная змена прысвечаная пэўнай тэме, – расказвае начальніца лагера **Людміла Хурсан.** – Мы прывучаем дзяцей да здаровага ладу жыцця, прысвячаем змены прыродзе, культуры, гісторыі. Вядома, што і штодзённыя мерапрыемствы ўсе звязаныя з тэмай змены.

Начальніца лагера расказвае пра тое, што вольнага часу, калі дзеці кінутыя на волю лёсу, тут проста не бывае.

– У нас то спартыўнае мерапрыемства, то экскурсія, то канцэрт запрошаных гасцей.

У дзень нашага візіту для адпачывальнікаў зладзілі канцэрт выхаванцы эстраднай студыі "Брава".

Вечарам, калі паміж вячэрай і дыскатэкай застаецца вольны час, можна папрасіць ключы і пагуляць у більярд у адмысловай більярднай.

– Адзінае, што вадаёму паблізу няма, – кажа Людміла Іванаўна, – і дзякуй богу. Так спакайней і нам, і бацькам.

**Сёлета пуцёўка ў летнік каштуе 3 870 000 рублёў.**

Працоўны калектыў лагера – 110 чалавек. 80% педагогаў – гэта настаўнікі маладзечанскіх школ. А вось дзеці розныя. Пераважна мінчане, але ёсць і маладзечанскія. На другую змену сюды прыехалі выхаванцы Маладзечанскага інтэрната для дзяцей са слабым зрокам.

– У лагер можа трапіць любы ахвотны, калі бацькі паклапоцяцца загадзя, – працягвае начальніца. – Але за чатыры гады працы тут я не памятаю, каб у атрадзе заставаліся вольныя месцы. 30-32 дзіцяці, 4 важатыя – вось такія атрады.

На лаўцы у цені дрэў адпачываюць хлопчыкі:

**– Як вам тут адпачываецца?**

– Я сюды ўжо пяты год запар прыязджаю, – кажа **Лёша Пляскач**. – Падабаецца.

– А я чатыры гады, – далучаецца да размовы **Вова Сармант**, – адзін год быў у лагеры "Зубраня". Дык там зусім не прышпільна.

– Самае цікавае, што тут адбываецца, – гэта спаборніцтвы паміж атрадамі па футболе, – працягвае Лёша.

– Няпраўда, мне і мерапрыемствы падабаюцца, я нават пераапрануцца ў любое пудзіла магу, – пярэчыць Вова.

– А самае крутое, што мы падрыхтавалі прыкол на апошнюю ноч. Рыхтуем зубную пасту і ніткі з іголкамі, каб прышыць сяброў да ложка, – смяюцца хлопцы.

Асаблівай увагі тут заслугоўвае меню ў сталовай.

Людміла Хурсан кажа, што ў іх да харчавання дзяцей асаблівы падыход.

– Я ж ведаю, што дзіця не прымусіш есці прэсны салат або рыбныя катлеты. Таму ў нас у меню мясныя салаты, бывае, што і з маянэзам, філе птушкі ў сыры, шашлык з курыцы. Раз на тыдзень на полудзень – марожанае.

Марожанае, па шчырасці сказаць, дзеці маюць магчымасць есці хоць штодзень. На тэрыторыі лагера працуе буфет, у якім можна купіць шмат прысмакаў, але тут не купіш ні чыпсаў, ні салодкай газіраванай вады.

Яшчэ адна асаблівасць лагера "Лясны" ў тым, што на ўсе прысмакі дзеці могуць зарабіць грошы самастойна. Тут цягам двух змен працуе працоўны лагер. Дзеці, што запісаліся ў гэты лагер, працуюць кожны дзень па чатыры гадзіны. У іх абавязкі ўваходзіць мыццё падлогі ў карпусах. Заробак за месяц – 1 200 000 рублёў.

– Вельмі цікава пачуць, калі дзяўчынка тэлефануе маме і просіць пазычыць ёй грошы, а не проста даць, – кажа Людміла Іванаўна. – Значыць, мы выхоўваем у дзецях самастойнасць. І гэта добра.



**Наталля ТУР**
natali.turenok@gmail.com
044-566-26-99 (працоўны)

ДЗЯРЖКАНТРОЛЬ

# Завысілі кошт будаўнічых работ на 32 мільёны рублёў

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю правёў планавую праверку камунальнага даччынага ўнітарнага прадпрыемства "Упраўленне капітальнага будаўніцтва Вілейскага раёна".**

Знайшлі недахопы і праблемы арганізацыі, недастатковы кантроль за фінансава-гаспадарчай і вытворчай дзейнасцю.

Праверка ўстанавіла неадзінкавыя выпадкі парушэння парадку вядзення бухгалтарскага ўліку: несвоечасовае адлюстраванне па рахунках бухгалтарскага ўліку гаспадарчых аперацый, адлюстраванне па рахунках бухгалтарскага ўліку гаспадарчых аперацый пры адсутнасці першасных уліковых дакументаў, якія маюць юрыдычную сілу, і іншае.

Прадпрыемства неэфектыўна выкарыстоўвала сродкі бюджэту.

Ёсць факты парушэння патрабаванняў заканадаўства пры ажыццяўленні прадпрыемствам тэхнічнага нагляду ў будаўніцтве.

Адсутнасць належнага кантролю прывяла да павелічэння нарматыўных тэрмінаў будаўніцтва аб'ектаў, невыканання падрадчыкамі графікаў выканання працы, завышэння кошту будаўнічых работ на 32,3 мільёна рублёў і іншага.

Па праверцы падрыхтаваныя матэрыялы для прыцягвання да адміністрацыйнай адказнасці вінаватых службовых асоб і прадпрыемства.

**По інфармацыі Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**

МІЛІЦЫЯ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Зблудзілі ў лесе – не варта панікаваць

ВІЛЕЙКА

**Штогод у Вілейскі РАУС паступаюць заявы аб знікненні людзей.**

Большасць атрымоўваецца адшукаць падчас першапачатковых вышуковых мерапрыемстваў.

Калі ж чалавека не знайшлі, узбуджаецца крымінальная справа.

Вышук спыняецца толькі тады, калі знаходзяць зніклага альбо пасля пятнаццаці гадоў з моманту ўзбуджэння крымінальнай справы.

Нярэдка да знікнення людзей, якія накіраваліся ў лясы па ягады і грыбы, прыводзіць няведанне мясцовасці і хваравіты стан.

Для пошукаў прыцягваецца шмат супрацоўнікаў міліцыі, выратавальнікаў, вайскоўцаў і іншых службаў. Аднак не заўсёды атрымоўваецца адшукаць чалавека. Да гэтага часу лясы Вілейскага раёна захоўваюць таямніцу знікнення многіх людзей.

## Бярыце зараджаны мабільнік і апранайце яркую вопратку

Аддзел крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС пры паходзе ў лес заклікае выконваць шэраг простых правіл:

1. Абавязкова паведамляйце сваякам, куды і на які тэрмін адпраўляецеся; па магчымасці не адпраўляйцеся ў лес адны.

2. Бярыце з сабой зараджаны мабільны тэлефон: у выпадку, калі заблудзіліся, тэлефануйце родным або па тэлефоне **102**.

3. Апранайце яркую вопратку: пры пошуках сярод дрэў лягчэй адшукаць чалавека.

4. Калі збіраецеся ў лес па грыбы, не забудзьцеся ўзяць з сабой нож, запалкі, неабходныя медыкаменты.

Калі ўсё ж заблудзіліся, то не варта панікаваць. Неабходна ўспомніць шлях, па якім ішлі, паспрабаваць адшукаць нейкія знаёмыя арыенціры. Калі ёсць мабільны тэлефон паведаміце пра тое, што здарылася ў міліцыю і мінімізуйце тэлефонныя званкі, але сам тэлефон не выключайце. Гэта дапаможа хутчэй вас адшукаць.

Міліцыя заклікае не заставацца абыякавымі да бяды сваякоў зніклых. Пры знаходжанні чалавечых парэшткаў ці якіх-небудзь прадметаў, якія сведчаць пра магчымае знаходжанне зніклых (адзенне, абутак, вёдры, кошыкі, ровары…), паведаміце пра гэта па тэлефоне **102**.

**Аддзел крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС.**

ФЕСТЫВАЛІ

# Наша песня будзе жыць

## "Як бы ні цяжка было змагацца з папсой"

МЯДЗЕЛ

**На Мядзельшчыне 11 і 12 ліпеня прайшоў рэспубліканскі фестываль харавога мастацтва "Пеўчае поле".**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Уладзімір Глазко прыехаў на фестываль з балалайкай-кантрабасам.

Яго гісторыя пачалася ў 1952 годзе. Сёлета фестываль атрымаў статус рэспубліканскага.

У ім узялі ўдзел 25 калектываў з усіх абласцей. Удзельнікаў сабралася больш за 600. Былі яшчэ і запрошаныя калектывы. Калі ўлічыць і іх, то больш за 700 артыстаў з'ехаліся ў гэтыя дні ў Нарачанскі край.

Фестываль ішоў не толькі ў Мядзеле, у амфітэатры на беразе возера Мястра. У санаторыі "Прыазёрны" на Нарачы праходзіла конкурсная праграма народных вакальна-харавых калектываў. А ў касцёле ў вёсцы Нарач (Кабыльнік) выступалі акадэмічныя вакальна-харавыя калектывы – там сярод іншых гучала духоўная песня.

Ацэньвала калектывы журы на чале з мастацкім кіраўніком Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору імя Цітовіча, народным артыстам Беларусі, прафесарам **Міхасём Дрынеўскім**.

– Пакуль ёсць такі таленавіты народ з патрэбай дарыць людзям радасць сваёй творчасцю, наша нацыянальная, і народная, і аўтарская песня будзе жыць. Як бы ні цяжка было зараз змагацца з папсой, якая нас ахутала, – сказаў ён.

У амфітэатры ў Мядзеле дзьмуў пранізлівы вецер, было халаднавата.

– Але гэта лепш, чым спякота ў 35 градусаў, – усміхаецца **Уладзімір Глазко** з Бабруйска.

Побач з ім вялізны інструмент – балалайка-кантрабас.

– Цяпер не хочуць цягаць такі інструмент, а раней многія на ім гралі, – дадае спадар **Уладзімір**. – Я іграю год трыццаць.

На фестываль ён прыехаў, каб паглядзець і ацаніць іншых.

– Паслухаў амаль усіх. Сілы сабраліся вельмі моцныя.

Гаспадароў на свяце прадстаўляў народны вакальны ансамбль "Натхненне" Мядзельскай дзіцячай школы мастацтваў. Яго ўзнагародзілі Дыпломам трэцяй ступені.

За ўзнагародамі на сцэну выходзілі не толькі работнікі культуры, а і святар. Паколькі народным камерным хорам "Праабражэнне" з Барысава кіруе іерэй **Сяргей Пракопчык.**

Па традыцыі завяршыўся фестываль выступленнем зводнага хору ўсіх удзельнікаў. І, як заўжды, дырыжыраваў **Міхась Дрынеўскі.**

– Нягледзячы ні на якія цяжкасці, нашы людзі спяваюць, – з падарункам у руках расказвае **Генадзь Сушко**, кіраўнік народнага ансамбля народнай песні "Забудова" Чысцінскага СДК Маладзечанскага раёна. – Удзельнічалі ў фестывалі "Пеўчае поле" трэці раз. Сёлета нам пашанцавала – узнагародзілі Дыпломам другой ступені. Уражанні ад фестывалю добрыя, творчасць павінна рухацца наперад. А харавое мастацтва абавязкова трэба падтрымліваць, бо шмат становіцца калектываў маленькіх, дзе спявае пяць-сем чалавек.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Дар'і СВІРЫДЫ.

Удзельніца дзевяціднёвага пленэру на Маладзечаншчыне Юлія Паўлюць намалявала маёнтак Міхала Клефаса Агінскага.

ВЫСТАВЫ

# Чым натхняюцца маладыя мастакі

МАЛАДЗЕЧНА

**Дзевяць дзён малявання на прыродзе. Што з гэтага выйшла, дзе можна пабачыць вынік, а таксама якія ўражанні засталіся ва ўдзельнікаў пленэру на Маладзечаншчыне.**

Мастацкая выстава "Шляхамі Міхала Клеафаса Агінскага" адкрылася ў Маладзечанскім дзяржаўным музычным каледжы 26 чэрвеня.

Гэта вынік працы дзевяціднёвага пленэру, які ўпершыню аб'яднаў навучэнцаў трох устаноў адукацыі: Мінскай дзяржаўнай гімназіі-каледжа мастацтваў, Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя Міхала Клеафаса Агінскай і гімназіі-каледжа мастацтваў горада Маладзечна.

Па словах арганізатараў і ўдзельнікаў, эксперымент удаўся. Мастакі атрымалі магчымасць убачыць іншыя стылі і тэхнікі, ацаніць свае работы ў параўнанні з іншымі.

Выстава прысвечаная мясцінам, у якіх жыў і тварыў Міхал Клеафас Агінскі, а таксама іншым гістарычным куточкам Маладзечаншчыны.

Юныя мастакі шукалі натхненне ў краявідах Залесся, Вязынкі, Краснага, Плябані.

– Я ўпершыню пабывала там, дзе калісьці жыў Агінскі. Сама я скончыла музычную школу і лічу яго музыку цудоўнай. Яна натхняе на творчасць, – падзялілася ўражаннямі навучэнка Мінскай дзяржаўнай гімназіі-каледжа мастацтваў **Юлія Паўлюць**, якая намалявала маёнтак вялікага кампазітара.

– А мне больш за ўсё спадабалася карціна "Сядзіба ў Залессі" **Марыі Тананы**. Выглядае прыгожа і рэалістычна, – адзначыла **Надзея Бобрык**, адна з наведніц выставы.

А вось **Настасся Асіповіч**, навучэнка гімназіі-каледжа мастацтваў Маладзечна, абрала для сваёй работы пейзаж вёскі Вязынка, таму што любіць творчасць Янкі Купалы.

### Прырода ўносіць карэктывы

Юныя мастакі адзначылі, што ім падабаецца маляваць з натуры, таму што прырода і свежае паветра ствараюць пэўную атмасферу. Але часам надвор'е можа ўнесці свае карэктывы, як гэта здарылася з работай "Вясковы пейзаж" **Ангеліны Вашчанкі**. Патрапіўшы на акварэль, выпадковыя кроплі дажджу надалі карціне своеасаблівасць і непаўторнасць.

Навучэнка Мінскай дзяржаўнай гімназіі-каледжа мастацтваў **Кіра Лойка** прадставіла на выставе тры работы.

– Пленэр мне вельмі спадабаўся. Гэта добрая магчымасць пазнаёміцца з новымі людзьмі, лепей пазнаць адзін аднаго, папрацаваць, памаляваць, навучыцца чамусьці, – мяркуе дзяўчына.

**Выстава будзе доўжыцца некалькі месяцаў. Усе ахвотныя змогуць паглядзець яе яшчэ і ў верасні.**

Пра гэта распавёў дырэктар Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа **Рыгор Сарока**.

**Дар'я СВІРЫДА,** школа журналістыкі "Маладзік".

ВЫСТАВЫ

# У музеі паказваюць... чайныя пакецікі

ВІЛЕЙКА

**Краязнаўчы музей працягвае знаёміць віляйчан з цікавымі калекцыямі ў межах культурна-выставачна-адукацыйнага праекта "Тыдзень калекцыянера".**

Пачаўся ён у сакавіку. У ліпені прапануем наведаць новую выставу, на якой прадстаўлена калекцыя чайных пакецікаў.

### Шаўковыя мяшочкі і "чайныя бомбы"

У 1904 годзе амерыканскі камерсант **Томас Саліван** упершыню прапанаваў незвычайны спосаб заварвання гарбаты. Ён пачаў рассылаць сваім заказчыкам партыі розных гатункаў чаю ў шаўковых мяшочках – у кожным было столькі чаю, колькі неабходна для заварвання аднаго кубачка.

У час Першай Сусветнай вайны чайная кампанія ў Дрэздэне ўзяла гэтую ідэю і пачала выкарыстоўваць марлевыя пакецікі для пастаўкі чаю ў армію. Салдаты называлі гэтыя пакецікі "чайныя бомбы", таму што пры жаданні можна было ў любы момант хутка выпіць конаўку чаю.

У дваццатых гадах заварванне чаю пры дапамозе чайнага пакеціка зацікавіла амерыканскага інжынера **Фея Осбарна**, які працаваў у кампаніі па вытворчасці розных гатункаў паперы. Ён падумаў, што можна паспрабаваць пашукаць такі сорт паперы, які будзе танней за шоўк, марлю і не будзе мець смаку. Праз некалькі гадоў Фей Осбарн вынайшаў чайную паперу.

У 1950 годзе фірма Teekanne прапанавала ўпакоўваць чайныя лісты ў двухкамерныя пакецікі з тонкай фільтраванай паперы. Пры гэтым клей увогуле не выкарыстоўваўся. Гэта значна палепшыла якасць чаю, і чайныя пакецікі пачалі карыстацца поспехам у многіх краінах свету. Цяпер пакецік робіцца з паперы-фільтру, запатэнтаванай амерыканскай фірмай Dexter.

Сам чайны пакецік запатэнтавала толькі ў 1952 годзе фірма паспяховага вытворцы чаю па прозвішчы Ліптан.

### Збіраюць чайныя пакецікі

Сёння чайныя пакецікі не толькі сродак хуткага прыгатавання чаю, але і прадмет калекцыянавання. Некаторыя гурманы настолькі палюбілі чай, што стварылі цэлы культ. Тыповым прыкладам гэтага можна лічыць тэанатафілію – калекцыянаванне чайных этыкетак і пакецікаў.

Першымі калекцыянерамі чайных этыкетак былі брытанцы. Яны славіліся сваімі чайнымі цырымоніямі і для таго, каб запомніць чай, рабілі паметку ў спецыяльнай кнізе, прыкладалі этыкетку. Гэта захапленне з цягам часу пачало распаўсюджвацца. Увесь час з'яўляюцца новыя дызайнерскія рашэнні чайных этыкетак, пакецікаў і скрыначак. Тэанатафілія набывае папулярнасць у Нідэрландах, Чэхіі, Бельгіі, Даніі, Расіі, Беларусі.

**Выставу можна наведаць да 21 ліпеня. Праходзіць яна ў зале выстаў імя Сілівановіча.**

**Надзея АЎДЗЕЙ**, навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея.

● ГІСТОРЫЯ

# Рэха падземна-міннай вайны. Кунава, Тэнчын, Багушы...

*Заканчэнне. Пачатак у №№25, 26, 28.*

СМАРГОНЬ

**Пасля падземна-мінных атак каля Навасёлак і Смаргоні, восенню 1916 года была зафіксаваная пракладка нямецкіх мінных галерэй каля Бурчакоўскага гаю ў раёне вёскі Кунава.**


Фота забяспечана Уладзімірам ПРЫХАЧАМ.

Выбух.

У наш час там заўважаліся правалы па лініях падземных тунэляў.

## Застаўшыся адзін, падпаліў шнур і знішчыў мінныя галерэі

Варожыя падкопы былі разлічаныя на падрыў рускага падземнага хода да перадавой. Каб не дазволіць выканаць запланаванае, рускія разведчыкі сумесна з сапёрамі праводзяць наземную начную атаку. Уявіць карціну той аперацыі можна па выпісцы з асабовай справы камандзіра першага сапёрнага батальёна Другога каўказскага інжынернага палка паручніка **Сяргея Іванавіча Азіяйса.**

У ёй адзначана: "У баі 9 (22) лістапада 1916 года пры атацы высунутага кальцавога акопа саперніка ля Бурчакоўскага гаю на чале сваёй каманды першым уварваўся ў мінную галерэю ворага, і, нягледзячы на моцны ружэйны агонь і ручныя гранаты, хутка знішчыў правады і ўзарваў галерэю. Ён не задаволіўся разбурэннем унутры і вырашыў падарваць і ўваходную галерэю, і ўсю мінную сістэму, для чаго адпусціў усіх ніжніх чыноў і, застаўшыся адзін, заклаў дынаміт і падпаліў шнур. Пачуўся выбух, які знішчыў мінныя галерэі немцаў, а таксама мінёраў і зарады".

За паспяховую атаку Сяргей Азіяйс загадам ад 31.12.1916 года быў узнагароджаны камандуючым 10-й арміі ордэнам Святога Георгія 4-й ступені. За мужнасць і "годныя славы подзвігі" ў час правядзення гэтай баявой аперацыі такімі ж вышэйшымі вайсковымі ордэнамі ў 16-м грэнадзёрскім Мінгрэльскім палку былі адзначаныя падпаручнік **Мікалай Аляксеевіч Касаікін**, падпаручнік **Дзмітры Дзмітрыевіч Байшаў** (пасмяротна), прапаршчык **Емяльян Пятровіч Снягір** (пасмяротна).

## За Тэнчынскі нос

Не менш зацятая барацьба вялася за Тэнчынскі бугор, ці, як называлі яго немцы, Тэнчынскі нос. У гады Першай сусветнай вайны франтавая мяжа ад Смаргоні да Крэва пралягла па дарозе, якая спрадвечна звязвала гэтыя населеныя пункты. Толькі каля маёнтка Тэнчын, пасля захопу летам 1916 года Сібірскімі стралкамі перадавога нямецкага пункта, руская пазіцыі перасеклі гэту лінію супрацьстаяння. Павернутыя ў нямецкі бок рускія акопы знаходзіліся ўдвая бліжэй да немцаў, чым да сваёй лініі абароны. Сёння гэта мясціна знаходзіцца на ўсходнім схіле Тэнчынскай вышыні, каля мясцовага мехстана.

У другой палове 1916 года на адзначанай пазіцыі пачынаецца падрыхтоўка да міннай і контрміннай вайны, з абодвух бакоў бугра пракладваюцца мінныя галерэі. На пачатку 1917 года, каб скаваць германскія войскі і не дазволіць іх перакідванне на іншыя ўчасткі фронту, рускае камандаванне спланавала каля Тэнчына правядзенне дэманстрацыйнага захопу варожага фронту з адначасовым падрывам небяспечных мінных галерэй саперніка. Батальён 13-га Лейб-Эрыванскага палка 3 (16) студзеня 1917 года ўдала атакаваў нямецкія пазіцыі, захапіў іх перадавыя акопы, сапёры правялі падрыў мінных галерэй і без страт адышлі на пазіцыі. У нямецкіх галерэях у час атакі працавалі, там знаходзілася шмат рабочых і інжынерных афіцэраў, усе яны загінулі.

За баявую аперацыю начальнік каманды разведчыкаў падпаручнік **Тамашэвіч**, камандзір 10-й роты **Эрыванцаў**, паручнік **Афанасьеў** і штабс-капітан **Кацельнікаў** атрымалі Георгіеўскую зброю. Капітан **Гранітаў** быў узнагароджаны ордэнам Святога Уладзіміра 4-й ступені з мячом і бантам, прапаршчыкі **Карабухаў** і **Лявіцкі** – ордэнамі Святой Ганны 4-й ступені з надпісам "За храбрасць".

Па сведчаннях мясцовых жыхароў, усё, што напамінала пра тую вайну ў выглядзе варонак і траншэй, з цягам часу засыпалі, сёння тут звычайныя сельскагаспадарчыя палеткі. Варта прыгадаць таксама, што пасля ваеннай віхуры быў цалкам знішчаны сам маёнтак Тэнчын.

## Нос цара Фердынанда

З матэрыялаў Маладзечанскага занальнага дзяржархіва вядома, што перад вайной маёнтак Тэнчын гаспадара **Лявона Леанардавіча Ваўчацкага** складаўся з шыкоўнага двухпавярховага сядзібнага дома, мураванай, гліна-бітнай і драўлянай кухняў, пяці хат-чваракоў для работнікаў, дзвюх мураваных і адной драўлянай стайняў, двух хлявоў, аўчарні, кароўніка, мураванага бровара са склепам і воднага млына. Гэты пералік знішчаных пабудоў маёнтка дае ўяўленне пра тыя непапраўныя страты, якія былі нанесеныя вайной толькі ў адным куточку нашага краю.

Адна з апошніх мінных атак рыхтавалася на Фердынандавам носе каля Крэва. Такую назву ў рускіх штабістаў займеў нямецкі выступ, які сваімі абрысамі нагадваў нос балгарскага цара Фердынанда на тагачасных карыкатурах. На беларускім участку руска-нямецкага фронту аналагічная назва сустракалася і ў іншых мясцінах.

**Па нямецкіх крыніцах гэты выступ меў назву Саксонскай пазіцыі, сёння ён знаходзіцца каля вёскі Багушы, пры ўездзе ў крэўскі лес.**

У дасланай шаноўным **Уладзімірам Багданавым** "Гісторыі 374-га пяхотнага палка" змешчаны адзін ваенны эпізод, які раскрывае невядомую раней старонку падземнага супрацьстаяння. У час падрыхтоўкі да ліпеньскага наступлення 1917 года, рускімі вайскоўцамі пачынаецца пракладка міннай галерэі для знішчэння варожых умацаванняў на Фердынандавым носе. Немцы ў адказ у спешцы закладваюць сваю контрмінную галерэю. З дапамогай электрычнага ўзмацняльніка шуму, які нагадваў тэлефонны апарат, немцы праслухоўваюць падземныя работы рускіх сапёраў. Праз некаторы час яны заўважаюць спыненне працы з рускага боку, што прыводзіць да завяршэння пракладкі іх контрміннай галерэі. Па адной з версій, працы прыпыніліся ў сувязі з падтапленнем падкопу і таму, што рускую армію апанавалі разлад і анархія. Што цікава, немцы нават у час летняга наступлення не былі ўпэўнены ў тым, што рускія не выкапаюць падрыў міннага зараду на гэтай пазіцыі.

## Падземная галерэя – унікальны помнік

След ад падземнага ходу захаваўся каля Лешчанятаў. У час краязнаўчай вандроўкі 2005 года можна было яшчэ разгледзець завалены ўваход у падземную галерэю. Па звесткам мясцовых краязнаўцаў, ход вёў да рускіх пазіцый, зверху быў ўмацаваны драўлянымі перакрыццямі, а бакавыя сцены абабітыя жалезнымі лістамі. Невядома, выкарыстоўваўся ён для мінных атак ці быў звычайных ходам зносін. Цалкам верагодна, што ў іншых мясцінах Смаргоншчыны існавалі падобныя галерэі з нямецкага і рускага бакоў. Знаходка новых фактаў і пацвярджэнняў зможа ў далейшым пашырыць веды пра малавядомыя старонкі нашай гісторыі.

Самым вялікім кратэрам, які ўтварыўся ад ваенных дзеянняў, і адным з самых вядомых помнікаў падземна-міннай вайны на Захадзе з'яўляецца Лохнагарскі кратэр на поўначы Францыі. Каля варонкі, якая захавалася ад падрыву мін 1 ліпеня 1916 года, сёння стаіць невялікі помнік у выглядзе крыжа, па перыметры варонкі пракладзеная сцяжынка, кожны год на гэтым месцы ладзяцца мемарыяльныя інсталяцыі памяці.

Упэўнены, што варонкі ад мінных атак каля Навасёлак і Смаргоні хутка вернуцца з нябыцця, прыцягнуць увагу не толькі даследчыкаў гісторыі, а разам са смаргонскім мемарыялам стануць самымі наведнымі турыстычнымі аб'ектамі па Першай сусветнай. Гэта ўнікальныя помнікі такога кшталту не толькі на тэрыторыі Беларусі, а, магчыма, на ўсім прасторы былога руска-нямецкага фронту.

**Уладзімір ПРЫХАЧ,**
**Смаргонь.**

● КАЛЯНДАР

### 19 ЛІПЕНЯ

**380 гадоў** назад (1635) памёр Павел Стафан Сапега, дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага, падканцлер. Нарадзіўся ў 1565 годзе.

**160 гадоў** назад (1855) памёр Тамаш Зан, удзельнік вызваленчага руху, філамат, прыродазнавец, літаратар. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Мясата, цяпер Маладзечанскі раён. Адзін са стваральнікаў таварыства філаматаў, стваральнік таварыства прамяністых, рэарганізаванага пазней у таварыства філарэтаў. Сябра Адама Міцкевіча і Яна Чачота. Кіраўнік першых рэвалюцыйных арганізацый на Беларусі і Літве. Адыграў значную ролю ў развіцці новага літаратурнага кірунку – рэвалюцыйнага рамантызму. Першым з кола віленскіх паэтаў прызнаў беларускую народную творчасць за адзін з найгалоўнейшых раздзелаў сваёй паэтычнай праграмы.

**1980 год.** У Мінску запалілі алімпійскі агонь.

### 20 ЛІПЕНЯ

**135 гадоў** з дня нараджэння Гальяша Леўчыка (Ілья Ляўковіч, 1880 – 1944), беларускага пісьменніка, перакладчыка.

### 21 ЛІПЕНЯ

**245 гадоў** таму памёр Удальрык (Ульрык) Крыштаф Радзівіл (1712–1770), дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага, пісьменнік, паэт і гісторык, генерал-лейтэнант войска ВКЛ. Паходзіў з роду Радзівілаў. Значную частку жыцця правёў у сваіх маёнтках на Валыні. Рабіў няўдалыя спробы ўмешвацца ў палітыку, абараняў права "ліберум вета". Сучаснікамі характарызаваны як дзівак і фантазёр, здольны і начытаны, але схільны да авантурызму. Сабраў вялікую бібліятэку, ведаў шмат моў, у тым ліку грэчаскую, нямецкую, французскую, італьянскую, англійскую. Пакінуў значную літаратурную спадчыну. Перакладаў на польскую мову творы Сафокла, П. Карнеля, Ж. Расіна. Частка твораў засталася ў рукапісах (напр. "Свецкая крытыка, або Сатыра" – рукапіс зберагаецца ў Дзяржаўнай бібліятэцы ў Маскве). Спрабаваў увесці ў спектаклях прыдворных тэатраў беларускую мову.

### 22 ЛІПЕНЯ

**120 гадоў** з дня нараджэння Паўла Сухога (1895–1975), авіяканструктара, вынаходніка, аднаго са стваральнікаў рэактыўнай і звышгукавой авіяцыі, аўтара больш як 50 арыгінальных канструкцый самалётаў, 30 з якіх былі пабудаваныя і выпрабаваныя, двойчы Героя Сацыялістычнай Працы, доктара тэхнічных навук.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

### Выхаванец вайсковага лагера:

# “Старэйшыя кажуць не ісці ў армію, але я хачу”

На фотаздымках выхаванцы ваенна-патрыятычнага лагера “Патрыёт” у Валожыне. На галоўным фота — Кірыл Гундараў і Вадзім Стасяловіч.

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

ВАЛОЖЫН

**Ад 7 да 15 ліпеня ў Валожыне на тэрыторыі вайсковай часці працаваў лагер “Патрыёт”. “РГ” завітала ў летнік і пазнаёмілася з 25-ю хлопцамі, якія правялі ў ім дзевяць дзён.**

– З Валожына мы абодва, – кажа **Арцём Матуз** і ківае ў бок **Лёшы Іоды**. – Я тут у другой школе вучуся.

– А я ў першай, – далучаецца Лёша. – І жыву там побач.

Арцёму 12 гадоў. Ён на год старэйшы за Лёшу. У вайсковым лагеры хлопцы ўпершыню. Як прыйшлі – усім выдалі ваенную форму. Праўда, у першы дзень была спёка і начальніку лагера давялося ўпрошваць дзяцей, каб яны скінулі з сябе хаця б кіцель. Бо дзеці – не салдаты, ім усяго цяжару службы трываць не трэба. Але ж што зробіш, калі падабаецца.

– Нармальна тут. Яшчэ б недзе два тыдні пажыў. Можна аўтаматы разбіраць, процівагазы мераць, – распавядае Арцём пра тутэйшыя будні. У лагеры хлопцы ўжо сем дзён, застаецца ўсяго два і некаторых ужо прыехалі забіраць бацькі. – Мы тут толькі са старшакамі не сябруем: адзін у сёмы ўжо пераходзіць, другі – у дзявяты.

Хлопцы ведаюць адзін аднаго ад першых класаў. Але таго, што разам трапяць у лагер, не чакалі. Арцёма запісалі, а Лёша захацеў сам.

У летніку іх ужо некалькі разоў вадзілі на экскурсіі. Паказвалі будынкі МНС, міліцыі. Вадзілі і вазілі ў музеі.

– Сёння ездзілі ў музей Вялікай Айчыннай вайны. Там увогуле супер. Ёсць галаграмы, танкі сапраўдныя, самалёты. Там і сапраўдныя абломкі, – шырока раскрыўшы вочы, кажа Лёша.

– Адна машына, якая ўсе дарогі праехала, – дадае Арцём.

Дарэчы, для дзяцей экскурсіі бясплатныя, грошы выдаткаваў аддзел адукацыі райвыканкама.

– Яшчэ ў кіно былі адзін раз, – кажа Арцём. – Паказвалі “Дарогу на Берлін”.

– Пра вайну фільм, – удакладняе Лёша.

– Там адзін забіў. Яго пасадзілі. За тое, што не даставіў загад, – расказвае Арцём сюжэт фільма. – Але калі немцы наступілі, яны вызваліліся і пачалі ратавацца. Потым пайшлі ў адну армію. Потым яны сышлі, вырашылі даставіць загад. Аднаго хацелі расстраляць, паставілі да сцяны, адзін бяжыць і спыняе іх. А пад канец яго сябра забілі.

– З самалёта, – дадае Лёша і пераключаемся на іншае. – Я б хацеў у арміі служыць. Кім? Генералам? О, да генерала яшчэ далёка. У мяне тут з’явіліся салдаты-сябры, – хлопчык пералічвае радавых па прозвішчах, потым дадае: – …дзядзька Косця, дзядзька Вова. Усё, здаецца. Некаторыя кажуць, лепш не ісці ў армію, а я хачу.

Прыгадвалі хлопцы і як пілі з біклагі, як рабілі бірулькі са шнурка і шмат чаго іншага. У іх тут і спартыўныя пляцоўкі, можна гуляць у футбол ці валейбол.

## Хто трапляе ў вайсковы лагер

У летніку сёлета 25 чалавек. Ад сямі да 16 гадоў.

– Ёсць тыя, якія прыязджаюць не першы год. Ім падабаецца, самі просяцца. Сёлета ўжо некаторыя падыходзілі, хочуць налета трапіць, – распавядае начальнік ваенна-патрыятычнага лагера “Патрыёт” **Вікенці Паплаўскі**. – Хлопцам заўсёды хочацца служыць, асабліва ў такім узросце. У іх армія асацыюецца з героямі. Яны прыязджаюць, бачаць армейскі быт. У нас такі самы расклад, як і ў салдат. Раніцай ваенная тапаграфія, медыцынская, страявая, агнявая падрыхтоўкі. Ім прыносяць аўтамат Калашнікава, расказваюць, паказваюць, даюць у руках патрымаць, разабраць, сабраць. Ім гэта цікава.

Але вядома, дзеці прыехалі адпачываць, а не служыць. Паблажкі маюць.

– Ложкі пад нітку мы не раўняем, – усміхаецца Вікенці Паплаўскі. – Засцілаем так, як можам засцяліць. Галоўнае, каб акуратна было. На пад’ём і гігіенічныя працэдуры ў нас паўгадзіны. У гэты час трэба ўкласціся, каб паспець на зарадку і на сняданак. Фізічная падрыхтоўка таксама па аблегчанай праграме.

## Як трапіць у летнік

На школы прыходзяць заявы, колькі трэба дзяцей у лагеры. Там звычайна пазначана, якіх дзяцей пажадана набраць: па ўзросце, сямейным становішчы, інтарэсах і г.д.

– Лагер дапамагае нам выхоўваць дзяцей. Мы паказваем ім моц нашай краіны, – кажа начальнік летніка. – Тым больш, сюды трапляюць не проста лепшыя дзеці. У лагеры ёсць тыя, што стаяць на ўліку ў міліцыі, дзеці са шматдзетных сем’яў, з малазабяспечаных. І яны могуць тут пабачыць добрыя прыклады.

## Паста не для вайсковага летніка

Намазаць ноччу кагосьці пастай – ужо банальная рэч для звычайнага летніка. Але тут усё сур’ёзна.

– За ўсю змену не было нічога такога, – запэўнівае Вікенці Паплаўскі. – Хлопцы вельмі адказна ставяцца да дысцыпліны. Мы ж і напачатку пра гэта казалі. Выступалі камандзіры з вайсковай часткі, расказвалі, што тут усё сур’ёзна. З адбоем таксама праблем няма. Калі гучыць каманда “Лагер, адбой!”, усе кладуцца ў ложкі і засынаюць.

У горад дзеці выходзяць як мінімум чатыры разы на дзень: на сняданак, абед, вячэру і другую вячэру. Мінакі, якія не прывыклі бачыць натоўп дзяцей у вайсковай форме, часам нават дастаюць тэлефоны і пачынаюць фатаграфаваць. Потым распытваюць, а хто вы такія, а што за лагер такі. Дзецям прыемная ўвага, ім падабаецца.

**Больш фота на сайце**

Rh.by



Настасся РОЎДА
nastya.rovdo@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

ПАРАДЫ ПСІХОЛАГА

# Як не пасварыцца з каханым у адпачынку

**Магчыма, некалькі простых парад ад псіхолага дапамогуць вам выратаваць свой адпачынак.**




Кацярына Козел, псіхолаг.




Найлепш планаваць сумесны адпачынак загадзя.

На двары сярэдзіна ліпеня. Верхавіна лета. Хтосьці ўжо вярнуўся з адпачынку, а хтосьці толькі збіраецца ў яго. І хаця сезон адпачынкаў – самы спакотны і рамантычны час, здараецца, паміж партнёрамі ўзнікаюць непаразуменні.

Выдатна, калі муж і жонка супадаюць па тэмпераменце і гатовыя без стомы наведваць усе экскурсіі, скакаць у начных клубах ці яшчэ якнебудзь забаўляцца. Альбо калі абодва любяць, як "цюлені", цэлымі днямі ляжаць каля басейна.

Але вельмі часта погляды партнёраў на адпачынак адрозніваюцца. Могуць пачацца скандалы. Абмяркуйце, чаго вы чакаеце ад адпачынку, хто і як хацеў бы яго правесці. Зрабіце гэта на пачатку адпачынку, а лепш – яшчэ раней. Гэта дапаможа знайсці паразуменне і выбраць аптымальны варыянт для вашай пары.

Спланіруйце спіс магчымых паходаў і падзей, куды вы хацелі б трапіць, так, каб абодва бакі былі задаволеныя. Паспрабуйце абмеркаваць і абгаварыць вострыя моманты, саступайце адзін аднаму.

Размаўляйце адзін з адным. Старайцеся не трымаць незадаволенасць і ўжо тым больш не назапашваць яе. Гаварыце, дамаўляйцеся, імкніцеся стаць на месца партнёра – тады, магчыма, будзе прасцей знайсці кампраміс.

Важнае правіла: пакіньце ўсе праблемы дома. Адпачынак – ён на тое і адпачынак, каб даць сабе час і магчымасць перазагрузіцца і набраць рэсурсаў для далейшых актыўных дзеянняў. Забудзьцеся на час адпачынку пра працу і нявырашаныя справы. І ўвага: не бярыце з сабой ноўтбукі і іншыя гаджэты.

Прысвяціце час сабе любімым. Арганізуйце рамантычны вечар ці спатканне. Узгадайце, як хадзілі на спатканні адзін з адным, што звязвала вас раней. Што кожны з вас цаніў адзін у адным у першую чаргу. І, паверце, ваш сумесны адпачынак стане незабыўным і падорыць мора станоўчых эмоцый і запалу.

## Калі ў адносінах лёгкая расколіна

Але ёсць яшчэ і такі варыянт. Калі ў вашых адносінах акрэслілася лёгкая расколіна і вы думаеце, што часовае растанне пойдзе на карысць. Ёсць рызыка атрымаць зваротны эфект. Можа здарыцца так, што вы яшчэ больш аддаліцеся адзін ад аднаго, і вернецеся з адпачынку яшчэ больш чужымі людзьмі. Так што ўзважце ўсё.

Існуюць і іншыя праблемы, якіх не толькі можна, а неабходна пазбегнуць.

### 1. "Чужы" адпачынак

Што маецца на ўвазе? Навязаны. Сям'ёй, сябрамі, калегамі, іншым асяроддзем, рэкламай. Атрымліваецца, што адзін чалавек ідзе з сябрамі ў халодныя горы – "ў паход", хоць увесь год хацеў паляжаць у свой адпачынак на гарачым пляжы. Іншы ж, наадварот, загарае ў Турцыі з жонкай, хоць не выносіць спёкі з дзяцінства.

Дрэннага адпачынку не існуе. Проста людзі розныя, і адпачынак мусіць быць падабраны індывідуальна. Калі гэта зроблена няправільна, то ён можа быць усё адно, што праца. Калі не горш.

### 2. Меркаванні

Падобна на першае, але не зусім тое самае.

Кожны чуў некалькі такіх катэгарычных заяў: "Нельга адпачываць з калегамі па працы" і "Адпачынак з жонкай і дзецьмі – гэта жах". У той час як іншыя сцвярджаюць адваротнае: "Без сям'і любы адпачынак не ў радасць" і "Лепш за ўсё адпачываць разам з калегамі". Як тут не заблытацца? Сур'ёзна паразважаць, прыдумаць сваё "катэгарычнае сцверджанне" і з'ехаць у адпачынак разам з любімым спаніэлем.

### 3. Паспець зрабіць усё

Многія спрабуюць ўціснуць у два-тры тыдні адпачынку столькі спраў, што, здаецца, яны назапашаныя не за год, а за ўсё жыццё. Хіты спісаў: правесці час з дзецьмі, зрабіць рамонт у кватэры, пабудаваць прыбудову на лецішчы, прачытаць колькі кніг, з'ездзіць да сваякоў, схуднець, прайсці медыцынскае абследаванне і іншае. Галоўнае, паспець усё за тры тыдні.

Зразумела, што ўсяго гэтага не выканаць. А пачуццё віны будзе. Пытанне: навошта планаваць? Тым больш столькі.

### 4. Грамадскае меркаванне

Напрыклад вельмі распаўсюджанае меркаванне, што падчас адпачынку трэба цалкам адключацца і нават не думаць аб працы. Што атрымліваюць згодныя з гэтым меркаваннем? Па-першае, пачуццё віны. Таму што перастаць на месяц думаць пра тое, чым заняты ўсе астатнія адзінаццаць – немагчыма. Ёсць людзі – кіраўнікі па псіхічным складзе, так званы "тып, які ўсё кантралюе". Часта на карыкатурах гэта выглядае так: бізнесмэн на пляжы з ноўтбукам, падключаным да інтэрнэту, які аддае ўказанні па мабільным тэлефоне.

Смех смехам, а чалавек, між іншым, інакш проста не можа. Будзе глупствам ад яго патрабаваць, каб "адпачываў спакойна", у той час як у офісе ў яго адсутнасць гараць кантракты. Вядома, не абавязкова яны сапраўды "гараць". Проста сапраўднаму кіраўніку ўсё роўна так здаецца, калі ён не ведае, што на яго родным працоўным месцы ў яго адсутнасць адбываецца.

Зразумела, што грош цана такому адпачынку, але "не думаць" аб працы дзеля блізкіх…

Псіхолагі прапануюць вылучыць час у адпачынку, які будзе законна прысвечаны працы. Напрыклад, гадзіну ў дзень. У якую будуць тэлефанаваць і паведамляць аб становішчы спраў, а таксама задаваць пытанні, якія патрабуюць вашага ўдзелу.

Часам сустракаюцца асаблівыя "кіраўнікі", якім працоўнай гадзіны не хапае. І яны ўсё роўна думкамі на працы. Такім лепш абраць у адпачынку экстрэмальныя віды спорту: сальта на водных лыжах і скачкі з парашутам. Гэта "адключыць мозг", як кажуць эксперты па "сіндрому менеджара".

Шчаслівага адпачынку, шаноўныя сябры!

**Кацярына КОЗЕЛ, псіхолаг Маладзечанскага раённага цэнтра сацабслугоўвання насельніцтва.**

ЗАХАПЛЕННІ

# Дарослыя, гаджэты – не наша ўсё

МАЛАДЗЕЧНА

**Не толькі камп'ютары, планшэты і смартфоны цікавяць сучасных маладых людзей. Дзесяцікласнік СШ №2 Багдан Раманоўскі прааналізаваў інтарэсы сваіх 150 сяброў у сацыяльнай сетцы "У Кантакце", а з некаторымі – пагутарыў.**

Амаль палова маіх сяброў, а гэта больш за 70 чалавек, цікавіцца мастацтвам: тэатрам, музыкай, маляваннем.

На другім месцы па папулярнасці стаіць спорт: футбол, плаванне, більярд, шахматы.

На трэцім – захапленне тэхнікай. Напрыклад, вывучэнне камп'ютараў, тэлефонаў і матацыклаў.

Фактычна, няма ніводнага сябра, якога б нічога не цікавіла, акрамя сацыяльных сетак. Імі ў большасці карыстаюцца ўсяго некалькі гадзін на дзень. За гэты час паспяваюць праверыць, ці не прыйшлі новыя паведамленні, ці не з'явіліся новыя каментары, фотаздымкі альбо новыя цікавыя навіны ў суполках.

Я пагутарыў з трыма маімі сябрамі пра іх захапленні. Яны ўсе розныя, але займаюць аднолькава важнае месца ў жыцці кожнага.

## Більярд

Вучань 10 класа маладзечанскай гімназіі №10 **Віця Дараховіч** цікавіцца більярдам з дзяцінства. А займаецца ім апошнія два гады.

– Памятаю, як мы з бацькам наведвалі більярдавыя клубы, як цікава мне было назіраць за гульнёй і як хацелася навучыцца самому. Потым пачаў наведваць заняткі. Більярд – выдатны спосаб расслабіцца, прывесці ў парадак свае думкі. Ён дапамагае развіваць самакантроль, удасканальваецца. Як кажа мой трэнер: "Калі гуляць з моцным праціўнікам, можна стаць мацнейшым", – распавядае Віця.

Дарэчы, у будучыні ён плане быць экспертам ва ўпраўленні ўнутраных спраў. Таму і імкнецца развіваць у сабе спаборніцкі дух і волю да перамогі.

## Англійская мова

**Света Рубцова**, выпускніца гімназіі №6 у Маладзечне, вучыцца на трэцім курсе Полацкага педагагічнага каледжа імя Машэрава. Вывучае англійскую мову. Аднак для яе замежная мова – не проста будучая прафесія. Гэта яе захапленне.

– Неабходна ведаць не толькі сваю родную мову, але і замежную. Гэта важная і неад'емная частка жыцця сучаснага чалавека, – разважае Света. – З дзяцінства падабаецца англійская мова, яе гучанне і меладычнасць. Пачала вывучаць яе яшчэ ў дзіцячым садку, працягвала ў школе, а цяпер – у каледжы.

Света сапраўдны паліглот. Вывучала французскую і італьянскую.

– Я зрабіла толькі першыя крокі ў вывучэнні англійскай, – лічыць яна. – Яшчэ так шмат трэба вывучыць, каб ведаць мову дасканала. Але з кожным днём яна здаецца мне бліжэйшай. Усё больш словаў я ведаю, усё больш тэкстаў разумею. Яшчэ тры гады – і стану дыпламаваным выкладчыкам англійскай мовы. У будучыні хачу паступіць ва ўніверсітэт на лінгвіста.

## Музыка

Сёння дастаткова набраць у пошукавай сістэме інтэрнэта некалькі слоў з любімай песні – і вось ужо можна яе слухаць анлайн.

Аднак некаторыя гэтую музыку ствараюць і выконваюць. **Маша Камінская**, да прыкладу, спявае. Яна выпускніца маладзечанскай гімназіі №10. Цяпер вучыцца ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка.

– Музыка – душа ўсяго. Выдатны сродак расслабіцца, супакоіцца. Яна па-рознаму ўплывае на чалавека: можа дапамагчы выказаць свае эмоцыі ў слязах, усмешцы, крыку, у міміцы ці жэстах. Музыка можа дапамагчы паказаць сябе ў танцы, спевах.

Для Машы музыка заўсёды была важнай часткай жыцця. Спяваць яна пачала ў дзяцінстве.

– Кожны раз, калі мне трэба прыняць важнае рашэнне ў жыцці і цяжка зрабіць выбар, я слухаю спакойную музыку, для душы. Яна дапамагае знайсці гармонію. Тады адразу добра відаць, якім чынам лепш зрабіць. Таму рэкамендую ўсім часцей звяртацца да музыкі, "размаўляць" з ёй душой, – раіць Маша.

Прыклады гэтых трох сучасных маладых людзей паказваюць, што далёка не для ўсіх тэхнічныя навінкі нашага часу займаюць галоўнае месца ў жыцці. Няхай дарослыя не кажуць, што сучасная моладзь выбірае толькі гаджэты і планшэты. Спадзяюся, маё невялічкае даследаванне зможа кагосьці ў гэтым пераканаць.

**Багдан РАМАНОЎСКІ, вучань 10 класа СШ №2, Маладзечна.**



Фота Юліі РОГАЧ.

Удзельнікі паходу па рэках Вузлянка і Нарачанка. Спераду ў байдарцы сядзіць Аксана Філістовіч, далей – Марыя Кавалёнак, Аляксандра Рогач і Ягор Новік.

ТУРЫЗМ

# Гімназісты ідуць у паход. "Крушэнне" і іншыя нечаканыя павароты

МАЛАДЗЕЧНА

**У чэрвені вучні маладзечанскай гімназіі №10 адправіліся ў паход па рэках Вузлянка і Нарачанка. Пра тое, з чым гімназістам давялося сутыкнуцца на шляху, распавядаюць удзельніцы паходу Паліна Баштык і Аляксандра Рогач.**

Сёлета ў чарговы раз вучні і бацькі нашага 9 "Б" класа адправіліся ў турыстычны паход па Вілейшчыне. Гэтыя мясціны добра ведае сям'я Рогачаў.

Мы рушылі ў байдарачны паход з вёскі Узла. Сабралі тры лодкі, спакавалі рэчы і адчалілі. Не паспелі мы праплысці і паўхвіліны, як натрапілі на першую перашкоду – велізарнае дрэва, якое перакрыла ўсю раку. Давялося выходзіць з байдарак і пераносіць іх.

Аднак не толькі дрэва, але і мель, карчы, кусты вымушалі нас заходзіць у халодную ваду з наседжаных месцаў.

### Як "Дзьмухаўцоў" здзімала, а "Глінамесы" заселі ў гліне

Калі мы даплылі да зліцця рэк Вузлянкі і Нарачанкі, нас чакаў сюрпрыз – сустрэча з першай настаўніцай **Аленай Баштык**, класным кіраўніком **Ірынай Рыбаковай** і бацькам Сашы Рогач, **Юрыем Анатольевічам**, які распавёў нам пра гісторыю гэтых мясцін.

Паміж вёскамі Любкі, Каралеўцы і Вуткі ёсць прыдарожны камень-помнік у памяць бою паміж свянцянскім атрадам Густава Чаховіча і царскімі войскамі. Бітва адбылася 5 чэрвеня 1863 года на гэтым месцы і была праіграна. Забілі 31 паўстанца, а атрад адступіў у Свянцянскі павет. Цяпер гэта месца называецца Біты Лог. Помнік ўстанавіў вядомы краязнаўца Вілейшчыны **Анатоль Рогач**.

**Дзякуючы намаганням Анатоля Рогача ў Вілейскім раёне пастаўлена каля 20 помнікаў і памятных знакаў. Разам з журналістам Сымонам Барысам ён напісаў кнігу нарысаў "Нарачанка і яе берагі".**

У гэтым маляўнічым кутку адбыўся другі этап паходу і змена экіпажа. Жартам экіпаж з дзяўчатамі назвалі "Дзьмухаўцамі", таму што іх байдарку ўвесь час "здзімала", плылі ад берага да берага. Экіпажу лодкі з бывалымі плыўцамі Палінай Баштык і **Радзівонам Цінцявіцкім** далі назву "Глінамесы", бо, засеўшы на гліністым беразе, доўга выцягвалі байдарку. Самай хуткай была "Сіняя страла", у якой азартна веславалі байдарачнік з досведам **Аляксандр Баштык** і дылетант Ірына Рыбакова.

Так мы працягвалі шлях яшчэ дзве гадзіны да нашай стаянкі, дзе ў гэты час другая частка нашай кампаніі ўладкоўвала лагер: распальвала вогнішча, гатавала ежу, ставіла палаткі. А бацькі **Цімафея Будая** частавалі нас гарбатай з сапраўднага рарытэтнага самавара!

Ноччу, па традыцыі, ля вогнішча былі песні пад гітару, гульні, розныя аповеды.

### Як наша байдарка ледзьве не пайшла на дно

Назаўтра зноў у дарогу. Толькі самыя моцныя і заўзятыя турысты выстаялі і паплылі далей. На паўшляху "Глінамесам" прыйшлося "швартавацца": байдарка зачапілася за корч і парвалася тканіна, якой яна была абцягнутая. Пакуль да пацярпелых "крушэнне" падаспела дапамога, Цімафею Будаю ўдалося ліквідаваць цечу. І турысты зноў рушылі ў дарогу.

Ад стаянкі да "гавані" мы прайшлі каля 16 кіламетраў і выйшлі на бераг ля вёскі Нароча. Тут нас чакалі клапатлівыя бацькі, якія дапамагалі сабраць рэчы і пагрузіць ў машыны. У Маладзечна вярталіся хоць і змораныя, але задаволеныя. Наш паход быў цяжкі, але пазнавальны, не толькі турыстычны, але і краязнаўчы. Яшчэ больш нам сталі блізкімі і зразумелымі радкі **Алеся Ставера** з верша "Нарачанка":

*Сінім вечарам*
*ці сінім ранкам,*
*Як засвеціць расой*
*сенажаць,*
*Нарачанка мая,*
*Нарачанка,*
*Выйдзі, выйдзі*
*мяне сустракаць.*

У мінулыя гады мы пабывалі ў вёсцы Заброддзе, дзе знаходзіцца музей Першай сусветнай вайны, а таксама плылі на байдарках на маршруце Вілія-Нарачанка. Мяркуем, наступныя паходы будуць не менш захапляльныя і пазнавальныя.

**Паліна БАШТЫК, Аляксандра РОГАЧ, вучаніцы 9 "Б" класа гімназіі №10 Маладзечна.**

**Даведка "РГ".** Швартавацца – замацоўвацца за прычальных прыстасаванні пры дапамозе тросаў.

НАВІНЫ

## "Смаргонь" ехала ў Баранавічы за перамогай, а атрымала нічыю

СМАРГОНЬ

Футбольны клуб "Смаргонь" 12 ліпеня ў гасцях пры дзвюх тысячах гледачоў згуляў унічыю з "Баранавічамі".

Першым вызначыліся смаргонцы. На 34-й хвіліне **Сяргей Бандарэнка** выдатным пасам вывеў на ўдарную пазіцыю **Аляксандра Талканіцу**, і той прабіў трапна. Аднак утрымаць пераможны лік хаця б да канца тайма госці не змаглі: на 44-й хвіліне гулец "Баранавіч" у таўханіне пасля навесу са штрафнога прапхнуў мяч у вароты.

Больш галоў у матчы не было.

Галоўны трэнер "Смаргоні" **Мікалай Рындзюк** прызнаў, што "ехалі ў госці з адной думкай пра перамогу, таму расчараваныя вынікам":

– Ведалі, што "Баранавічы"– каманда баявая, маладая, якая нікому проста так ачкі не аддае. Планавалі згуляць першым нумарам – у прынцыпе, многае атрымалася. Але, на жаль, удача адвярнулася ад нас, калі на апошняй хвіліне гульні наш гулец трапіў у штангу.

Адказаў ён на пытанне пра матэрыяльнае забеспячэнне каманды:

– На цяперашні момант у нас няма затрымак па зарплаце перад камандай. Футбалістам грэх скардзіцца. На жаль, пакуль не відаць ад іх такога ж стаўлення, – прыводзіць словы Мікалая Рындзюка football.by.

Пасля гэтай гульні "Смаргонь займае шостае месца.

## ДЮСШ-4 выходзіць на трэцяе месца

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

Усе матчы чэмпіянату вобласці па футболе каманды рэгіёна на гэтых выхадных правялі ў гасцях.

"Вілія" з Вілейкі 12 ліпеня сустракалася з лідарам чэмпіянату – "Коласам" з Чэрвеня. У выпадку перамогі віляйчане маглі б узначаліць турнірную табліцу. Аднак "Вілія" ўпершыню ў гэтым чэмпіянаце прайграла. Прытым, разгромна – 0:6. Праўда, гуляла каманда без асноўнага варатара – Паўла Ляошкі, расказаў прадстаўнік "Віліі" **Алег Гулевіч.**

Віляйчане апусціліся з другога на чацвёртае месца. Мае каманда 17 ачкоў. Столькі пасля дзясятага тура стала на рахунку ДЮСШ-4 з Маладзечна, але маладзечанцы з-за лепшых дадатковых паказчыкаў займаюць трэцяе месца.

ДЮСШ-4 за два дні правяла дзве гульні. І абедзве выйграла. У суботу, 11 ліпеня, у перанесеным матчы маладзечанцы перайгралі "Крупкі-ДРБУ-164" 3:2. У ДЮСШ-4 галы на рахунку **Іллі Сыракваша**, **Прохара Новікава** і **Сяргея Лавора**. А ў нядзелю маладзечанцы перамаглі "Нёман-Агра" са Стабцоўскага раёна з лікам 2:1. Два галы забіў **Ігар Талькоўскі.**

"Забудова-Буд" згуляла ўнічыю 2:2 з "Крупкамі-ДРБУ-164". Каманда з Чысці займае сёмае месца.

## Маладзечанскія ветэраны футбола перамаглі па пенальці

МАЛАДЗЕЧНА

На гарадскім стадыёне 11 ліпеня адбылася гульня на Кубак Мінскай вобласці па футболе сярод ветэранаў. Сустракаліся каманды Маладзечанскага і Барысаўскага раёнаў.

– Гульня атрымалася цікавая. Прыемна было паглядзець на нашых ветэранаў: хуткасці, вядома ўжо няма, але з мячом яны абыходзяцца так, што не кожны малады зможа, – расказаў маладзечанскі заўзятар **Рыгор Кароль.** – Большую частку гульні мы правялі на палове поля гасцей, але барысаўчане лавілі на контратаках і двойчы выходзілі наперад. Першы мяч маладзечанцы забілі, калі справа **Аляксандр Вяжэвіч** некалькі разоў накруціў абаронцу і прастрэліў у цэнтр на **Дзмітрыя Шэка**. У другім тайме ў мітусні каля варот пасля адскоку першым на мячы быў **Аляксандр Ярашэвіч**, які і забіў другі гол.

Асноўны час гульні скончыўся 2:2. У серыі пенальці адзін з удараў барысаўчан адбіў варатар гаспадароў **Ігар Якаўлеў**, а ўсе пяць удараў маладзечанцаў былі дакладныя. Вырашальны пенальці рэалізаваў **Дзмітры Вышынскі**.

## Мядзелец перамог на Балтыйскіх гульнях

МЯДЗЕЛ

Ад 3 па 5 ліпеня выхаванец Мядзельскай СДЮШАР **Андрэй Васілевіч** удзельнічаў у Балтыйскіх юнацкіх гульнях. Адбываліся яны ў нямецкім горадзе Брандэнбург.

Найлепш ён выступіў на дыстанцыі 200 метраў на байдарцы-адзіночцы: заняў першае месца.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ ВІЛЕЙКІ



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Дзеці ў захапленні ад магчымасці пагуляць на новай дзіцячай пляцоўцы, што нядаўна з'явілася ў гарадскім парку.

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 3 | 7 | |
| | | | 4 | 8 | 6 | | | |
| | | 5 | | | | | | 4 |
| 7 | 9 | | | | | 8 | | 5 |
| | 8 | 2 | | | | 9 | 4 | |
| 5 | | 6 | | | | | 1 | 2 |
| 6 | | | | | | 1 | | |
| | | | 1 | 3 | 7 | | | |
| | 7 | 8 | 2 | | | | | |



Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

ЛІТАРАТУРА

## ТОП-10 кніг ад паэткі Таццяны Сівец, якія дазволяць адчуць сябе беларусам

МАЛАДЗЕЧНА

**Удзельнічайце ў конкурсе, які ладзяць Цэнтральная раённая бібліятэка імя Максіма Багдановіча, курсы беларускай мовы "Мова Нанова" і "Рэгіянальная газета".**

Запрашаем вас **ад 15 чэрвеня да 15 верасня** завітваць у Цэнтральную раённую бібліятэку імя Максіма Багдановіча і браць для чытання беларускія кнігі ці часопісы. Яна часова месціцца ў бібліятэцы "Верасок" па адрасе: ***Вялікі Гасцінец, 121.***

Пераможцаў вызначаць у верасні. Лепшых кнігалюбаў чакаюць падарункі. Каб было прасцей выбраць кнігу, "РГ" друкуе спісы лепшых кніг на думку пісьменнікаў, якія ўдзельнічалі ў сёлетнім Нацыянальным фестывалі беларускай песні і паэзіі.

1. **Уладзімір Караткевіч.** "Дзікае паляванне караля Стаха"
2. **Васіль Быкаў.** "Знак бяды"
3. **Аркадзь Куляшоў.** "Цунамі"
4. **Янка Купала.** "Тутэйшыя"
5. **Якуб Колас.** "Сымон-музыка"
6. **Ян Баршчэўскі.** "Шляхціц Завальня..."
7. **Андрэй Мрый.** "Запіскі Самсона Самасуя"
8. **Іван Мележ.** "Людзі на балоце"
9. **Юры Станкевіч.** "Любіць ноч – права пацукоў"
10. **Алена Брава.** "Рай даўно перанаселены"

**Падрыхтавала Таццяна ЗАКРЭЎСКАЯ, загадчыца аддзела абслугоўвання Маладзечанскай цэнтральнай раённай бібліятэкі.**

ФЕСТЫВАЛІ

## 1 жніўня – "Дружба Festival"

**Сёлета 1 жніўня на дзвюх сцэнах опэн-эйра выступяць "J-Морс", "Трубяцкой", "Серебряная Свадьба", "Nizkiz", а таксама "Крама" і "Drum Ecstasy".**

Другі штогадовы фестываль пройдзе ў 35 кіламетрах ад Мінска, у цэнтры экалагічнага турызму "Станькава". Ён месціцца непадалёк ад Дзяржынска. Акрамя фестывальнай пляцоўкі там ёсць заасад, зялёная зона і музейны комплекс.

Апроч канцэртаў наведнікаў фэсту чакаюць арт-кірмаш, атракцыёны для дзяцей, спартыўныя спаборніцтвы, летнія гульні, конкурсы і многае іншае.

Білеты на "Дружба Festival" можна набыць на сайтах білетных аператараў. Іх цана з набліжэннем падзеі будзе расці.

Сачыце за навінамі фестывалю ў інтэрнэце:
**Група Вконтакте:** vk.com/drufest
**Група Facebook:** facebook.com/drufest

"Дружба Festival" заявіў пра сябе летась, калі прыехала больш за 3000 чалавек.

"Дружба Festival" – цёплы фестываль лета!

**Аддзел інфармацыі.**

РЭПЕРТУАРЫ

### Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, камедыя "**Міньёны**" (3D, ЗША, 2015)
17 ліпеня – у 15:20 (цана білета: 30 000), у 17:30 (55 000)
18 ліпеня – у 11:00 і 13:00 (30 000), у 17:30 (55 000)
19 ліпеня – у 12:30 (30 000), у 17:00 (55 000)
20 ліпеня – у 14:50 (30 000), у 17:00 (55 000)
21 ліпеня – у 14:50 (30 000), у 17:00 (55 000)
22 ліпеня – у 14:50 (30 000), у 17:00 (55 000)
23 ліпеня – у 14:50 (30 000)

Фантастычны баявік "**Чалавек-мурашка**" (ЗША, 2015)
17 ліпеня – у 19:40 (цана білета: 55 000), у 22:00 (60 000)
18 ліпеня – у 15:10 і 19:40 (55 000), у 22:00 (60 000)
19 ліпеня – у 14:40, 19:10 і 21:30 (55 000)
20 ліпеня – у 19:10 і 21:30 (55 000)
21 ліпеня – у 19:10 і 21:30 (55 000)
22 ліпеня – у 19:00 і 21:30 (55 000)
23 ліпеня – у 19:10 (55 000)

Прэм'ера! Камедыя, баявік "**Пікселы**" (3D, ЗША, 2015)
23 ліпеня – у 16:50 (цана білета: 45 000), у 21:30 (55 000)

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Камедыя, сямейны "**Прыгоды Падынгтана**" (Вялікабрытанія, Францыя, 2014)
17 ліпеня – у 16:00 (цана білета: 15 000 )
18 ліпеня – у 14:30 (20 000)
19 ліпеня – у 14:00, 16:00 (20 000)
21 ліпеня – у 18:00 (20 000)
23 ліпеня – у 18:00 (20 000)

Камедыя "**8 новых спатканняў**" (Расія, 2015)
17 ліпеня – у 18:30
18 ліпеня – у 17:00 і 21:00
19 ліпеня – у 18:30
20 ліпеня – у 18:00
21 ліпеня – у 20:00
22 ліпеня – у 15:00
23 ліпеня – у 20:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

### Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Гняздо дракона**" (3D, ЗША)
17 ліпеня – у 13:30
18 ліпеня – у 13:00
19 ліпеня – у 14:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя "**Олі і скарб піратаў**" (3D, ЗША, 2014)
17 ліпеня – у 15:00
18 ліпеня – у 14:30
19 ліпеня – у 13:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Меладрама "**Яшчэ адзін год**" (Расія)
17 ліпеня – у 18:00
18 ліпеня – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер "**Вій**" (3D, Расія, Украіна, 2014)
17 ліпеня – у 20:00
18, 19 ліпеня – у 21:00
Цана білета: 30 000 рублёў
18, 19 ліпеня – у 16:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Драма "**Белы бог**" (Венгрыя, з 18 год)
19 ліпеня – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, камедыя "**Міньёны**" (3D, ЗША, 2015)
17, 19 ліпеня – у 12:00 і 14:30
18 ліпеня – у 12:00 і 16:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Фантастыка, баявік "**Чалавек-мурашка**" (3D, ЗША, 2015)
17 ліпеня – у 19:00 і 21:30
18 ліпеня – у 18:00 і 20:30
19 ліпеня – у 17:00, 19:30 і 21:30
Цана білета: 55 000 рублёў
18 ліпеня – у 14:00
Цана білета: 45 000

Жахі, трылер "**Убраць з сяброў**" (2D, ЗША, 2015, з 16 год)
17 ліпеня – у 17:00
Цана білета: 45 000
Тэл.: **8(01771) 5-68-59**

ГАРАСКОП
17-23 ЛІПЕНЯ


**Авен.** Не адмаўляйце магчымасцяў пазнання аб'ектыўнага свету і яго заканамернасцяў, не думайце, што Богу патрэбныя нашы хвалы. Ён хоча толькі аднаго – каб мы сталі лепшымі.


**Цялец.** Дапамажыце таму, хто папросіць вас аб гэтым. І нічога не рабіць на шкоду сабе, бо некаторыя могуць скарыстацца вашай даверлівасцю.


**Блізняты.** Вы вельмі патрабавальныя да сябе і іншых. Вашы адносіны да людзей не пакідаюць месца эмоцыям. Больш праяўляйце свае пачуцці.


**Рак.** Вы многае зразумееце пра сябе і тых, хто вас акружае. Зоркі не забараняюць рабіць бяздумныя ўчынкі, але ўсю адказнасць за іх вам прыйдзецца ўзяць на сябе.


**Леў.** Вам спадабаецца сюрпрыз, які паднясе вам лёс. Вы будзеце літаральна свяціцца энергіяй і шчасцем, усё будзе атрымоўвацца, любыя пытанні вырашацца.


**Дзева.** Вучыцеся нейкі час расслабляцца і ні пра што не думаць. Ідэі, якія пасля прыходзяць, увасабляйце ў жыццё.


**Шалі.** Ці ведаеце вы правіла трох Н – няма нічога немагчымага. І гэта правіла працуе. Калі вы моцна чаго захочаце, то ўвесь Сусвет прыйдзе вам на дапамогу.


**Скарпіён.** Звярніце ўвагу на тое, як складваюцца вашы адносіны з блізкімі, таму што цяпер ёсць шанец вырашыць нейкія даўнія праблемы, узнавіць узаемаразуменне. І звярніце ўвагу на здароўе. Галоўнай прычынай недамагання можа стаць ваша ўласная бестурботнасць і нядбайныя адносіны да сябе. Адмоўцеся ад алкаголю, кіньце вы шкодныя прывычкі пасапраўднаму, а не толькі на словах.


**Стралец.** Не давярайце малазнаёмым людзям, бо менавіта з-за іх могуць адбыцца канфлікты. Рабіце зберажэнні і трацьце грошы з розумам.


**Казярог.** Для многіх з нас страх – гэта горшае, што можа адбыцца. Рэальнасць жа не такая і страшная.


**Вадалей.** Наша цела старэе, і мы не можам гэтаму перашкодзіць. Лепшы спосаб замарудзіць старэнне – атрымліваць асалоду ад жыцця і пражываць кожны дзень напоўніцу.


**Рыбы.** Добра было б адпачыць удалечыні ад гарадскога шуму і мітусні. Калі вырашылі патраціць грошы на буйныя пакупкі, то не сумнявайцеся, вы будзеце задаволеныя.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

**Камент-эксперт**
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **Rh.by**

**Рэгіянальная газета.** Rh.by

Тэлетыдзень 27

● НАДВОР'Е

## 18 ліпеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +12 / +19 | | +12 / +23 | | +17 / +22 | | +13 / +19 | |
| | 737 | ↘ 7 | 742 | ↑ 4 | 737 | ↓ 3 | 738 | → 3 |
| Вільня | +12 / +20 | | +11 / +21 | | +16 / +19 | | +11 / +17 | |
| | 748 | ↘ 7 | 750 | ↗ 3 | 747 | → 4 | 747 | → 7 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 5.02
Захад 21.35
Даўжыня дня 16.33

Усход 7.51
Захад 22.15
Квадра 1




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература +8 °С у 1987 годзе
Максімальная тэмпература +32,3 °С у 2010 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 17,2 мм у 1990 годзе
Назіранні за 60 год. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- Што цікавага знайшлі на чарговых раскопках на паўвостраве Замак у Мядзеле, дзе стагоддзямі ўзвышаўся магутны замак? Яшчэ даведаецеся новыя падрабязнасці з гісторыі замка ад беларускага гісторыка і археолага Мікалая Плавінскага. Чытайце матэрыял праз тыдзень.

*Мы открылись!!!*
**НОВЫЙ КРУПНЫЙ САЛОН–МАГАЗИН МЕБЕЛИ**
Выставочная площадь – 1500 кв.м.
***г. Сморгонь, ул. Гагарина, 47***
**Тел/факс (8-01592) 4-65-16,( 8-029) 686-18-61**(Велк.)
Широкий ассортимент выставленной мебели и под заказ:
✧ **кухни ЗОВ** по индивидуальному проекту: ( 3Д дизайн–проектирование) Тел. **(8-029) 789-50-47** МТС; **(8-044) 774-09-63** Вел. Анна (Сморгонь, Ошмяны, Островец) Тел. **(8-029) 131-46-80** Вел. Светлана (Молодечно, Мядель, Воложин, Вилейка)
✧ **кухонные зоны, металлические и деревянные столы и стулья** (более 20 комплектов)
✧ **шкафы–купе, детская и офисная мебель** под заказ. Тел. **(8-029) 638-13-15** Павел
✧ **более 80 комплектов мягкой мебели** (Гомельской фабрики Прогресс, Амплуа, Бобровмебель, Максдивани, Модомебель и других производителей)
✧ **более 50 комплектов мебели для гостиных** (фирменная секция БРВ, Мебель Неман, Лером, СВ–мебель, Калинковичи, ЗОВ и другие)
✧ **более 15 наборов мебели для спален, кожаные кровати, матрацы**
✧ **офисные кресла, садовая мебель** (пластик, лоза, ротанг) и **многое другое**
✧ выставочный зал **детской мебели, мебели для прихожих**
*Рассрочка без переплат, наличный, безналичный расчёт, оплата пластиковой картой.* ***Профессиональная помощь при замере и выборе!***
Частное предприятие "ФаворитМебель". УНП 590720811

**ОТОПЛЕНИЕ - ВОДОСНАБЖЕНИЕ**
- КОТЛЫ ИЗ ИТАЛИИ
- РАДИАТОРЫ
- ВОДОНАГРЕВАТЕЛИ
- ЭЛЕКТРООБОГРЕВАТЕЛИ
- ТРУБЫ, ФИТИНГИ, КРАНЫ
- БАКИ РАСШИРИТЕЛЬНЫЕ
- СЧЕТЧИКИ ГАЗА и ВОДЫ
Рассрочка 0%
Фирменный магазин IMMERGAS 8 029 1356221
**Молодечно, ул. Мира, 10-а**
Частное предприятие "Теплое Место". УНП 191283857

Профессиональная
**РЕСТАВРАЦИЯ ЭМАЛИ ВАНН**
Стаж – 15 лет
(8029) 989-56-67
(8029) 553-73-34
(80176) 50-10-18
ИП Кочкин А. А. УНП 190793011

**Рэклама ў "РГ"**
(80176) 75-38-41
reklama@rh.by

Врач психотерапевт Н.В. СУРОВЦЕВ
Сайт **www.psyhoterapia.by**
**Кодирование**
г. Молодечно, ул. Будавников 4а, каб.35
Тел. **(8-044) 456-25-46**
*(Прием по предварительной записи)*
УНП 691513732

**Будаўнічыя матэрыялы**
Опт. Розніца.
*Пад заказ з дастаўкай.*
*Спецумовы для аддзелачнікаў*
**www.cwik.by**
**(8-029) 175-49-46**
**(8-029) 849-49-46**
**(8-0176) 74-57-71**
*Маладзечна,*
***вул. Гарадоцкая, 102-Ж***
ТАА «Свет аконных сістэм і тэхналогій». УНП 691888098

*Качество лучше, чем цена*
□ **Рамы раздвижные**
□ **Окна из ПВХ**
**Гарантия 5 лет. Собств. пр-во, доставка, монтаж**
□ **Отливы, парапеты** из оцинкованной стали
*Быстро, качественно*
Молодечно, Городокская, 102–Ж
**(8-0176) 58-04-99, (8-029) 140-69-13, (8-029) 85-85-125**
ООО «Мир оконных систем и технологий». УНП 691888098

**МЕБЕЛЬСТАР - *"НАТЯЖНЫЕ ПОТОЛКИ"***
**МЭБЛЯ ДЛЯ ДОМА І ОФІСА: КУХНІ І ШАФЫ-КУПЭ любой складанасці.**
*Летнія зніжкі. Растэрміноўка плацяжу без %%*
Тэл: **01771-55430; 56382;** / **0176-502136;** / V= **0296701534;** / МТС= **0298673597**
**mbstar@mail.ru** / **www.belmebelstar.ru** / ООО "Мебельстар" УНП 690249732

KBE WDS
**МИР ОКОН**
**РАССРОЧКА 0%**
**ИЗГОТОВЛЕНИЕ 3 ДНЯ!**
*Качество вызывает уважение!*
**Цены, которые радуют!**
**ДАРИМ ПОДАРКИ !**
www.eurostroyka.by
**Гарантия 12 лет!!!**
**(033)678-06-25 (029)678-41-25**
ИП Григайтис И.В. УНП 691165717

**Рэгіянальная газета.** Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 29 (1055) 17.07.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 945. Падпісана ў друк у 9.00 16.07.2015.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.**
Тэлефоны/факс: **(0176) 769667, 747100, 753841** (рэклама).
E mail: **regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Дзе летам павінны адпачываць дзеці?



**Аляксандр Войніч, мантажнік:**
– У летніках, бо там яны будуць кантактаваць з іншымі дзецьмі. Мае дзеці пакуль дома, але ў хуткім часе павінны паехаць на адпачынак. Я ў дзяцінстве ездзіў праз год у Сочы з бабуляй, дзядзькам.



**Майя Саломка, маладая мама:**
– Вядома, у вёсцы, бо там больш чыстае, чым у горадзе, паветра, свежыя садавіна, гародніна, ягады. Я ў дзяцінстве заўсёды адпачывала ў вёсцы. Там у мяне было шмат сяброў. Аднак цяпер мы сустракаемся радзей, у кожнага з'явілася свая сям'я, некаторыя пераехалі.



**Людміла Бобрык, пенсіянерка:**
– Лепш, калі ў вёсцы ў бабулі. Я заўсёды радуюся, калі да мяне прыязджаюць унукі. Таксама для дзяцей добра адпачываць у летніку, пры школах. Мой унук цяпер адпачывае ў летніку. Учора патэлефанавала, сказаў, што вельмі задаволены адпачынкам. Я ў дзяцінстве любіла ездзіць у піянерскі лагер "Цна".



**Наталля Скарынкіна, прыбіральшчыца:**
– Добра, калі дзеці адпачываюць у піянерскіх лагерах, таксама ў вёсцы. Там свежае паветра, дзецям весела. Я таксама ў дзяцінстве адпачывала ў летніках.



**Алег Кулікоў, пенсіянер:**
– У дзяцінстве адпачываў на моры ў Каспійску, гэта ў Дагестане, там нарадзіўся. Але неабавязкова вазіць дзяцей на мора, можна і ў Беларусі добра адпачыць. Лепш за ўсё – за горадам, дзе чыстае паветра. Мая дачка жыве ў Піцеры, дык там вельмі складана адпачыць на свежым паветры.



**Алла Пелля, краўчыха:**
– Лепш за ўсё ў бабулі ў вёсцы. Мае дзеці цяпер там і адпачываюць. Як было добрае надвор'е, купаліся ў надзімным басейне. Але калі ёсць магчымасць, то дзяцей лепш адвезці да мора.



**Уладзіслаў Залатуха, школьнік:**
– Я адпачываю ў бабулі ў вёсцы разам з братамі. Нам вельмі весела разам. Таксама быў у санаторыі, гэта было вельмі карысна, бо там шмат разнастайных працэдур. Хацелася б з'ездзіць у іншыя краіны, паглядзець, як там людзі жывуць.

**Падрыхтавалі Настасся РОЎДА, Галіна СІНІЦА.**